ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

**№51** (2557) 18 снежня 1997 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 1 000 рублёў.

*БЕЛАРУСЬ — ДЫЯСПАРА*

## ДА ДРУЖАЛЮБНАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА

Беларуская дыяспара — гэта частка нашага народа, што жыве за межамі сваёй маці-Айчыны, але не страціла патрэбы ў кантактах з ёю, захоўвае цягу да мовы, культуры, традыцый краіны, дзе нарадзіліся яны самі або іх продкі. У апошнія гады колькасць нашых землякоў у замежжы значна павялічылася, бо імі сталі тысячы беларусаў, якія жылі ў рэспубліках былога Савецкага Саюза. Яны самі або іх дзядыпрадзеды ўнеслі ўклад у патэнцыял Радзімы. Яна і сёння з'яўляецца для іх не мачахай, а маці.

Яшчэ ў 1993 годзе Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь была прынята Дзяржаўная праграма "Беларусы ў свеце", якая прадугледжвае захады па сацыяльнай і прававой абароне беларусаў замежжа, развіццю сувязей Айчыны з дыяспарай, стварэнню спрыяльных умоў для эканамічнага і навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва. Сувязі паміж Беларуссю і выхадцамі з яе прадугледжваліся вельмі разнастайныя. Гэта і забеспячэнне іх неабходнай літаратурай, і прыняцце на вучобу ў ВНУ маладых беларусаў з замежных краін, арганізацыя летняга адпачынку дзяцей, курсаў для кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці, правядзенне сумесна з прадстаўнікамі дыяспары навукова-практычных курсаў, семінараў і творчых нарад для настаўнікаў беларускай мовы, літаратуры, гісторыі ў замежжы.

З 1993 года гэтыя сувязі ажыццяўлялі міністэрствы культуры, адукацыі, замежных спраў, Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, Беларускае таварыства "Радзіма", Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". А ў пачатку гэтага года Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь быў створаны Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь. Узначальвае камітэт Аляксандр Білык. Яго намеснікам па справах нацыянальных меншасцей Беларусі і беларускай дыяспары стаў **ІВАН ЯНОВІЧ**. Яго карэспандэнт "Голасу Радзімы" і папрасіў адказаць на некалькі пытанняў.

**— Раскажыце, калі ласка, Іван Іосіфавіч, пра напрамкі дзейнасці Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей.**

— Стварэнне камітэта — гэта паслядоўны крок у дзяржаўнай палітыцы ў адносінах да беларусаў замежжа. Прапановы аб стварэнні дзяржаўнага органа для пастаяннага, мэтанакіраванага вырашэння пытанняў развіцця сувязей з беларускай дыяспарай былі выказаны яшчэ на Першым з'ездзе беларусаў свету.

Камітэт мае тры асноўныя напрамкі дзейнасці: вырашэнне пытанняў, што ўзнікаюць у сферы дзяржаўна-царкоўных узаемаадносін, удзелу ў распрацоўцы і рэалізацыі дзяржаўнай палітыкі ў адносінах да нацыянальных меншасцей, садзейнічанне і непасрэдная дапамога ў задавальненні нацыянальна-культурных запатрабаванняў беларусаў і выхадцаў з Беларусі іншых нацыянальнасцей, якія жывуць за яе межамі.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

ПРЫРОДА І МЫ

## НА ПАЛЯВАННЕ — СА СТРЭЛЬБАЙ І ПАЧУЦЦЁМ АДКАЗНАСЦІ

**На Беларусі спакон веку паляванне — занятак традыцыйны, добра вядомы: лясоў у нас, дзякуй Богу, хапала і хапае. Праўда, жыўнасці там апошнім часам істотна паменшала. Але і па сённяшні дзень, калі надыходзіць вызначаны час, стрэльбы расчахляюцца і тысячы апантаных азартам пагоні людзей выпраўляюцца на паляванне. Вось тут вельмі важна, каб паляўнічая сцежка не стала сцежкай сапраўднай бязлітаснай вайны чалавека з прыродай. Пра гэта, іншыя аспекты праблемы гутарка з Алегам СІДАРЭНКАМ, начальнікам аддзела дзяржкантролю за выкарыстаннем і аховай жывёльнага свету Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.**

— Так, самая балючая сёння праблема, як, дарэчы, і раней, — ахова найбольш каштоўных відаў жывёл.

*— На якую прамысловую лясную жыўнасць зараз забаронена паляванне?*

— Адразу хачу папярэдзіць: трэба забыць пра слова "промысел" увогуле. І, думаю, назаўсёды. Мы знаходзімся ў цэнтры Еўропы, а не на бясконцых сібірскіх абшарах, дзе, мяркую, магчымы якісці паляўнічы промысел. На Беларусі размова вядзецца толькі пра аматарскае паляванне, прычым вельмі абмежаванае. Напрыклад, па-ранейшаму застаецца сур'ёзнай сітуацыя з папуляцыяй ласёў.

*— Але ж дазволы на адстрэл лася выдаюцца?*

— Звычайна толькі для заахвочвання, як своеасаблівая ўзнагарода. Я назваў стан спраў сур'ёзным, але не крытычным. Канешне, калі на ўсю Беларусь налічвалася 150—300 ласёў, тады і размовы не было — забарона поўная. Сёння мы маем 13—15 тысяч асобін — не многа, аднак не катастрафічна мала. Вось і вырашылі: у гаспадарках, дзе работа добра наладжана (пагалоўе капытных расце), дазволіць, так бы мовіць, "прэ-

(Заканчэнне на 3-й стар.).



ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



Вучаніца 10 класа віцебскай сярэдняй школы № 34 Наташа ПЯЧОНКА ў вольны час займаецца ў тэатры "Флора" пры абласным аб'яднанні па пазашкольнай працы.

Фота Аляксандра ХІТРОВА.

ЗЯМЛЯ, ШТО ПОМНІЦЬ БАГРЫМА

## КРАШЫНСКАЕ РЭХА

Імя Паўлюка Багрыма, слыннага крашынскага паэта і каваля-мастака, авеяна паданнямі і легендамі. Асабліва легендамі і паданнямі ахінуты час жыцця Паўлюка Багрыма пасля крашынскага бунту вясной 1828 года. Паводле згадак яго сучаснікаў, прынамсі навагрудскага адваката Ігната Яцкоўскага, аўтара кнігі "Аповесць з майго часу, або Літоўскія прыгоды", выдадзенай у 1854 годзе ў Лондане, пасля згаданай крашынскай падзеі Паўлюк Багрым за крамольныя вершы, свае і чужыя, быў здадзены ў рэкруты. Многія не пагаджаюцца з гэтай звесткай: маўляў, Паўлюк Багрым быў замалады для рэкрутаў — яму не было на той час, як разгорталіся падзеі ў Крашыне, яшчэ і шаснаццаці гадоў, і ні ў якія рэкруты ён не патрапіў, а працягваў жыць у Крашыне. Пасталеўшы, завёў тут сям'ю, а пасля, невядома ў якія гады, хіба пасля таго, як выкуў у 1881 годзе сваю славутую жырандолю, разам з сям'ёй і іншымі сваімі родзічамі паехаў за мяжу. Прынамсі, такой думкі, што Багрым выехаў за мяжу і не куды-небудзь, а ў Амерыку, прытрымліваецца Міхась Маліноўскі — праваздзейны член Геаграфічнага таварыства пры Акадэміі навук колішняга СССР. Што ж, можна пашукаць Багрымавы сляды і за мяжою. Калі Міхась Маліноўскі знойдзе іх там, мы ўсе яму будзем удзячныя. Я ж пашукаю Багрымавага духу, ягоных слядоў у ягоным Крашыне: у вядомых ужо дакументах. Балазе, Крашын спазнаю з 1985 года.

(Працяг на 7-й стар.).

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*НА АФІЦЫЙНЫМ УЗРОЎНІ*



**10 снежня прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Сяргей Лінг сустрэўся з прадстаўнікамі нямецкай фірмы МАН. У выніку сустрэчы было падпісана пагадненне аб стварэнні сумеснага беларуска-германскага прадпрыемства МАЗ-МАН па вытворчасці грузавых аўтамабіляў.**

**НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы.**

*МАЛЕНЬКІЯ РАДАСЦІ*

### ТЫСЯЧНЫ «ФОРД»

**Чатыры месяцы спатрэбілася заводу "Форд Юніян" для выпуску першай тысячы аўтамабіляў.**

**Днямі на прадпрыемстве ў Абчаку адбылася цырымонія з гэтай нагоды. Тысячным аўтамабілем стаў седан "Форд Эскорт" з аб'ёмам рухавіка 1,6 літра колеру сярэбраны металік.**

*ТЫДЗЕНЬ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА*

### ДЭНІЕЛ СПЕКХАРД ЗАЯВІЎ

**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол ЗША ў Беларусі Дэніел Спекхард 10 снежня выступіў з заявай з нагоды пачатку Тыдня правоў чалавека.**

**Дэніел Спекхард лічыць, што з моманту абвяшчэння незалежнасці ў Беларусі нямала зроблена на шляху адыходу ад савецкіх стандартаў, калі інтарэсы асобы былі падпарадкаваны інтарэсам дзяржавы. А нармалізацыя адносін Беларусі з іншымі краінамі, лічыць ён, павінна пачацца з вяртання да паўнацэннага захавання правоў чалавека.**

**— З моманту майго прыезду ў Беларусь я працую над пацяпленнем адносін паміж нашымі краінамі. Думаю, што такое пацяпленне магчымае... Краіна, што знаходзіцца на этапе карэнных пераўтварэнняў у палітыцы і эканоміцы, не можа абысціся без існавання самых розных пунктаў погляду. Іх аналіз, супастаўленне і ажыццяўленне найбольш дастойных — у інтарэсах саміх беларусаў.**

**Амерыканскі пасол павіншаваў грамадзян нашай рэспублікі з Тыднем правоў чалавека і выказаў надзею, што Беларусь зойме дастойнае месца ў свеце.**

*ВІЦЕБСКІ ФЕСТЫВАЛЬ*



**У Віцебску адбыўся Міжнародны фестываль сучаснай харэаграфіі, у якім прынялі ўдзел калектывы з Расіі, Латвіі, Эстоніі, Японіі, Ізраіля, Кітая і Беларусі. Пераможцамі і ўладальнікамі "Гран-пры" і пяці тысяч долараў сталі танцоўшчыкі з Кітая. Яны ўручаны маладзёжнай трупе танца Пекінскага харэаграфічнага інстытута за мініяцюру "А хто я?". Першае месца журы не прысудзіла нікому. Другой прэміі і дыплома за танец "Мужчына ў чаканні" ўдастоены тэатр "Правінцыйныя танцы" з Екацярынбурга. Трэцюю прэмію і дыплом заваяваў дуэт "Двое" Валерыя Архіпава маскоўскага тэатра "Сатырыкон". Акрамя таго, было шмат спецыяльных прызоў.**

**НА ЗДЫМКУ: адкрыццё фестывалю харэаграфіі ў Віцебску.**

*СІТУАЦЫЯ*

### ЗГУБНЫ КРЫЗІС

**Прэзідыум Брэсцкага абласнога савета калгасаў прыняў зварот да старшынь абедзвюх палат Нацыянальнага сходу Беларусі. У гэтым звароце аграрыі вобласці гавораць, што дзяржаўныя субсідыі, укладзеныя ў сельскую гаспадарку за 1991—1997 гады, склалі больш чым 10 трыльёнаў рублёў, а страты калгасаў і саўгасаў ад рэалізацыі прадукцыі жывёлагадоўлі дасягнулі толькі за 1997 год амаль 37 трыльёнаў рублёў. На думку савета калгасаў, закупачныя цэны сёння не кампенсуюць і паловы затрат на гадоўлю буйной рагатай жывёлы і свіней.**

**Указаўшы на празмерна нізкія закупачныя цэны на сельскагаспадарчую прадукцыю, аграрыі выказалі думку, што цэны неабходна перагледзець і зрабіць іх такімі ж, як і ў Расіі.**

**Каб вывесці сельскую гаспадарку са згубнага крызісу і дасягнуць стабілізацыі, патрэбна, заяўляе савет калгасаў, праводзіць гібкую дзяржаўную палітыку, а для фінансавання калгасаў выдзеліць з дзяржаўнага бюджэту як мінімум 20 працэнтаў грошай.**

*ПРАВЕРКА НА АДПАВЕДНАСЦЬ*

### АБ'ЯДНАННІ І ПАРТЫІ

**Праверку адпаведнасці дзейнасці зарэгістраваных у краіне партый іх статутам і заканадаўству Беларусі праводзіць Міністэрства юстыцыі рэспублікі.**

**Як стала вядома карэспандэнту БЕЛТА, у Беларусі на сённяшні дзень зарэгістраваны 2 123 партыі, прафсаюзы і іншыя палітычныя грамадскія аб'яднанні. Сярод апошніх 813 маюць рэспубліканскі статус, 193 — міжнародны і 1 024 — рэгіянальны.**

*МАЙСТРЫ СПОРТУ*



**"Бронзу" прывёз з англійскага горада Гатэшад, дзе праходзіў міжнародны турнір па спартыўнай акрабатыцы, навучэнец віцебскага вучылішча алімпійскага рэзерву майстар спорту міжнароднага класа Ігар АДАМЕНКАЎ. Медаль даўся нялёгка: за ўпартай барацьбе за першынство прымалі ўдзел наймацнейшыя спартсмены ЗША, Бельгіі, Францыі, Вялікабрытаніі, Расіі і Беларусі.**

*ДЫПЛАМАТЫЧНЫ КУР'ЕР*

### ПАСЛЫ ЗМЕНЯЦЬ ЧАСОВЫХ ПАВЕРАНЫХ

**Часовыя паверания, якія прадстаўляюць інтарэсы Беларусі ў Італіі, Японіі і Румыніі, у бліжэйшы час будуць заменены на паслоў. Як паведаміла ў час сустрэчы з журналістамі намеснік міністра замежных спраў Ніна Мазай, на працягу наступнага года наша рэспубліка набудзе свае пасольствы яшчэ ў трох дзяржавах — Славакіі, Славеніі і Індыі.**

*У ЗБС «БАЦЬКАЎШЧЫНА»*

### КРЫЖ СТВОРАНЫ

ЗБС "Бацькаўшчына" правяло пасяджэнне Рады сумесна з Радай прадпрымальнікаў беларускай дыяспары з нагоды завяршэння пяцігадовай работы па стварэнню Крыжа па ўзору Узвіжальнага Крыжа Ефрасінні Полацкай. Як вядома, "Бацькаўшчына" стала ініцыятарам гэтай святой справы. У Заяве Рады ЗБС "Бацькаўшчына" гаворыцца: "Мы зрабілі свой крок да ідэі Крыжа як духоўнага сімвала яднання нацыі. У ім — наша пакаянне, надзея і любоў да Бога і сваёй Бацькаўшчыны — Беларусі".

Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, які ў свой час благаславіў работу па стварэнню Крыжа, прыклаў вялікія намаганні, каб майстар М. Кузьміч мог паспяхова завяршыць працу і каб Крыж стаў сапраўднай сакральнай каштоўнасцю. Адзін з фундатараў работы па стварэнню Крыжа — прадпрымальнік з Сібіры, наш суайчыннік Анатоль Сілівончык быў узнагароджаны ордэнам Святога Раўнаапостальнага Уладзіміра. Узнагароду ўручыў яму Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт на гэтым пасяджэнні ў "Бацькаўшчыне".

У сваю чаргу, кіраўніцтва ЗБС "Бацькаўшчына" на сваёй Радзе падзякавала ўсім, хто тым ці іншым чынам далучыўся да гэтай вялікай справы.

Міжнародны дабрачынны фонд Жыватворнага Крыжа святой Ефрасінні Полацкай, прэзідэнтам якога з'яўляецца А. Сілівончык, мяркуе і надалей актыўна супрацоўнічаць з Беларускай праваслаўнай царквою "ў імя адраджэння духоўнасці і нацыянальнай культуры як падмурка станаўлення сучаснай беларускай дзяржаўнасці, у імя згоды і міру ў нашым грамадстве".

У сваёй Заяве Рада ЗБС "Бацькаўшчына" звяртаецца да ўрада Беларусі з прапановаю надаць Дню памяці святой Ефрасінні Полацкай (5 чэрвеня) статус агульнадзяржаўнага свята.

*РЭКАНСТРУКЦЫЯ*

### СТАРЫЯ ПАРКІ

**Зацверджаны пералік 15 найбольш значных у гістарычных, культурных і ландшафтных адносінах паркаў у Брэсцкай вобласці, якія патрабуюць неадкладных работ па добраўпарадкаванню і абнаўленню.**

**Сярод іх тыя, што адносяцца да васемнаццатага і дзевятнаццатага стагоддзяў: Туганавіцкі пейзажны парк у вёсцы Карчова Баранавіцкага раёна, старадаўні пейзажны парк радавой сядзібы Пуслоўскіх у Старых Пясках Бярозаўскага раёна, парк палацава-паркавага ансамбля Ю. Нямцэвіча ў вёсцы Скокі пад Брэстам, парк-маёнтак у вёсцы Опаль Іванаўскага раёна, пейзажны парк сядзібы Скірмунтаў у вёсцы Парэчча на Піншчыне, парк "Рэпіхава" ў Ляхавіцкім раёне і іншыя помнікі пейзажна-паркавага мастацтва.**

*ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ*

***Васіль СТРАЖАЎ:***

### «СЁННЯ — АДУКАЦЫЯ ДЛЯ ЎСІХ, ЗАЎТРА — АДУКАЦЫЯ ДЛЯ КОЖНАГА»

**У прэс-цэнтры Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі адбылася прэс-канферэнцыя на тэму "Сярэдняя агульнаадукацыйная школа будучыні: дзяржаўная падтрымка і фінансаванне на наступны год (па выніках парламенцкіх слуханняў)". У сустрэчы ўдзельнічалі міністр адукацыі Васіль Стражаў, начальнік Упраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Мікалай Фяськоў, старшыня парламенцкай Камісіі па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу Уладзімір Плецюхоў, яго намеснік Валянціна Самусева, іншыя члены камісіі.**

Пра што ж даведаліся журналісты! Першае і галоўнае — рэформа сярэдняй школы абавязкова пачнецца з наступнага навучальнага года. Усе заўтрашнія "першачкі" — і шасцігодкі, і сямігодкі — з 1 верасня 1998-га стануць вучыцца "па-новаму". Менавіта ад іх будзе весціся адлік рэфармаваным школьным пакаленням.

Па-другое, што таксама вельмі важна, у наступным годзе дзяржаўныя выдаткі на адукацыю, навуку і культуру застануцца прыкладна ранейшымі. Аднак, як заўважыў адзін з прысутных, няхай хаця б гэтыя грошы своечасова і цалкам аддадуць, і за тое — дзякуй. Пра сур'ёзнасць становішча гаворыць наступны факт: у кастрычніку сярэдняя заработная плата настаўніка склала прыблізна толькі 60 працэнтаў ад сярэдняга заробку ў прамысловасці, што з'яўляецца своеасаблівым рэкордам пасляваенцкага перыяду.

У новым рэспубліканскім бюджэце доля на адукацыю нават трохі павялічыцца — 7,1 працэнта ад расходнай часткі супраць сёлетніх 6,6. У той жа час напачатку не было запланавана асобнае фінансаванне школьнай рэформы, што цалкам нелагічна ў час, калі рэформа ўжо шырока разгортваецца. Па рэкамендацыі дэпутатаў Мінфін спецыяльна на гэтыя мэты дабавіў 20 мільярдаў рублёў, а таксама расшчодрыўся на дадатковыя 60 мільярдаў на культуру — вечную "папялушку" пры дзяльбе ўсяляких матэрыяльных "пірагоў". Сумнявідомы яшчэ з савецкіх часоў "астаткавы прынцып" фінансавання культуры ў нашай краіне аказаўся надзвычай жывучым, можа таму на наступны год планавалася выдаткаваць на развіццё культуры толькі 0,64 працэнта ад расходнай часткі — нават менш, чым сёлета і летась. Дарэчы, не лепшым чынам складваюцца справы і з фінансаваннем навукі, дзе рэальныя выдаткі таксама змяншаюцца.

Адносна школьнай рэформы: пра яе пакуль можна рабіць агульныя вывады. Зноў у школу дзеці пойдуць з шасці год і напачатку — у падрыхтоўчыя класы пры дзіцячых садах. Школьнае навучанне планецца на працягу дванаццаці гадоў. Перабудова пачатковай школы, па словах міністра адукацыі, сёння практычна адбылася, складаней са старшакласнікамі, дзе спатрэбяцца не толькі новыя праграмы, але і адпаведна новыя падручнікі, на падрыхтоўку якіх звычайна грошай якраз і не хапае. Як адзначалася, базіруецца школьная рэформа на савецкай адукацыйнай сістэме. Акрамя агульнай канцэпцыі, планецца распрацаваць праекты мэтавых дзяржаўных праграм "Настаўнік", "Вясковая школа", "Інфарматызацыя сістэмы адукацыі", "Замежныя мовы", "Комплексны капітальны рамонт школ і іншых адукацыйных устаноў на 1998—2005 гады". Нейкай асобнай праграмы па развіццю беларускамоўнай школы сярод іх няма. Прысутныя запэўнілі: пра беларускую мову дбаюць у кожным з вышэйпералічаных напрамкаў асобна і ва ўсім адразу.

Такім чынам, вельмі хутка школу чакаюць перамены. Няхай гэта будуць перамены да лепшага, бо тычацца яны нашых дзяцей.

Галіна УЛІЦЁНАК.

## АДКУЛЬ БЯРУЦЦА БЕЗНАДЗЕЙНА ХВОРЫЯ ДЗЕЦІ?

У гарадскі інтэрнат для дзяцей-інвалідаў з цяжкімі парушэннямі цэнтральнай нервовай сістэмы, які знаходзіцца ў Навінках, трапляюць тыя, каму больш няма месца нідзе. Тут — тупік. Сёння інтэрнат разлічаны прыкладна на дзвесце дзяцей ва ўзросце ад 6 да 18 гадоў. Пасля дасягнення паўналецця яны пакідаюць гэтыя сцены і пераходзяць у дарослыя дамы-інтэрнаты. Адзін з іх знаходзіцца зусім побач, праз агароджу ад дзіцячага, і для многіх яго насельнікаў самая доўгая ў жыцці дарога складае ўсяго некалькі крокаў, якія падзяляюць два дамы, а ўся даступная ім жыццёвая прастора — два двары, абнесеныя высокай каменнай агароджай.

Адкуль бяруцца такія дзеці? — вось пытанне, якое ўзнікае ў кожнага, хто так ці інакш сутыкаецца з жыхарамі інтэрната. У часы сумнай памяці антыалкагольнай кампаніі такімі дзецьмі, паказваючы іх ледзь ці не ў кожнай тэлеперадачы, палохалі будучых бацькоў, выдаючы гарэлку за корань усіх няшчасцяў. У самім інтэрнаце помняць, як некалі сюды прыводзілі на экскурсіі "няўдалых" старшакласнікаў, а выхавальнікаў прасілі гаварыць, што гэтыя дзеці — прамы вынік распуснага жыцця іх бацькоў. Між тым, любы ўрач ведае, што калі маці ў час цяжарнасці перанесла вірусны грып, краснуху ці токсаплазмоз, дзіця перахварэе на гэтыя павінен не працаваць, праводзячы з хворым большую частку свайго і яго жыцця. І ніколі не зможа ён жыць у кватэры, дзе ў адным пакоі гадамі шукаюць агульную мову два-тры пакаленні адной сям'і. Як гэта ні сумна, дабрата і міласэрнасць у гэтым выпадку маюць сваю зусім пэўную цану, і многім яны не па кішэні. Сведчанне таму — дом-інтэрнат № 3 і чарга з некалькіх соцень маленькіх інвалідаў, якія маюць патрэбу быць змешчанымі ва ўстанову такога тыпу. Сёння гораду патрэбны як мінімум яшчэ адзін дом-інтэрнат. Што тычыцца бацькоў такіх дзяцей, то тут усё залежыць ад канкрэтных людзей і іх асабістых якасцей. Адны прыязджаюць раз у год на дзень нараджэння дзіцяці, іншыя аддаюць сваіх дзяцей на пяцідзённы рабочы тыдзень, а ў пятніцу вечарам на суботу-нядзелю бяруць іх дадому. Ёсць бацькі, якія прыязджаюць да сваіх дзяцей праз дзень... Для іх гэта таксама паўсядзённае зняволенне, толькі ў адрозненне ад сваіх дзяцей яны свядома нясуць гэты крыж праз усё астатняе жыццё.

У апошнія гады жыццё насельнікаў домаінтэрната змянілася ў лепшы бок: на іх нарэшце звярнула ўвагу дзяржава, ды і іншаземцы, што зачасцілі сюды, усімі сіламі стараюцца аблягчыць іх існаванне. З Германіі прыехалі альтэрнатыўнікі — маладыя хлопцы, якія замест службы ў арміі ўзялі на сябе

# ЗАМКНЁНЫЯ Ў АБМЕЖАВАНАЙ ПРАСТОРЫ

хваробы, яшчэ не паспеўшы нарадзіцца на свет. Дзеці з непрапарцыянальна вялікімі галовамі — непасрэдны вынік перанесенага ўнутрывантробнага менінгаэнцэфаліта, які прыводзіць да алігафрэніі. Многія з такіх захворванняў выкліканы шэрагам спадчынных прычын, калі бацькі, будучы практычна здаровымі, з'яўляюцца носьбітамі генаў, якія мутыравалі. Для таго каб выявіць такія гены, патрэбны складаныя і дарагія біяхімічныя пробы, якія не кожнаму па кішэні. У сваю чаргу, эканомія на стварэнні служб генетычнага кантролю, здольных прадухіліць трагедыі, абарочваецца тым, што грамадства вымушана выкладваць грошы на будаўніцтва новых дамоў-інтэрнатаў, а таксама на выхаванне і пажыццёвае ўтрыманне хворых дзяцей. Уплывае на спадчыннасць і стан навакольнага асяроддзя. Лічыцца, што хвароба Даўна з'яўляецца ў дзяцей, чые маці працуюць на хімічнай вытворчасці, і ў жанчын, якія раджаюць пасля 40 гадоў. Аднак такія ж храмасомныя змяненні могуць быць выкліканы і радыяцыяй.

Трапляюць сюды рознымі шляхамі: ад адных маці адмаўляюцца яшчэ ў радзільным доме, іншых бацькі аддаюць сюды толькі тады, калі больш няма магчымасці трымаць іх дома. Трапіўшы ў інтэрнат аднойчы, назад у свае сем'і гэтыя дзеці, як правіла, не вяртаюцца. Між тым, сусветны вопыт сведчыць, што многія з іх пры адпаведным доглядзе, калі ёсць магчымасць удзяляць ім дастаткова часу і сродкаў, паступова вучацца і затым вядуць жыццё значна больш паўнацэннае, чым пажыццёвае зняволенне ў сценах дома-інтэрната. У Германіі і ЗША дзяцей з хваробай Даўна ў спецыяльныя школы не змяшчаюць увогуле — яны вучацца ў агульнаадукацыйных па аблегчаных праграмах. У нямецкіх школах дзіця з аслабленымі здольнасцямі знаходзіцца ў класе з нармальнымі дзецьмі, якія дапамагаюць яму завязваць шнуркі, водзяць у сталовую, рыхтуюць з ім урокі. Пасталеўшы, яны вядуць зусім нармальнае жыццё, выконваюць нескладаную працу. Але гэта адбываецца толькі тады, калі грамадства знаходзіць магчымасці ўдзяляць ім часу і сіл не менш, а значна больш, чым здаровым дзецям. Сёння фінансавае становішча большасці беларускіх сямей не дазваляе трымаць дома дзіця-інваліда, якое патрабуе вялікіх матэрыяльных і маральных затрат. Для гэтага як мінімум адзін з яе членаў самую цяжкую працу — догляд ляжачых дзяцей. Дужыя хлопцы насілі іх на двор з другога паверха, садзілі ў інвалідныя калялкі, вывозілі ў лес. Некалькі гадоў назад сюды прыехалі прадстаўнікі нямецкай арганізацыі "Жыццёвая дапамога", якія прафінансавалі чатыры стаўкі выхавальнікаў, што дазволіла вучыць усіх дзяцей па індывідуальных праграмах. За два гады гэтай работы ў становішчы дзяцей адбыліся значныя зрухі. У канцы кастрычніка даны праект скончыўся, і ёсць надзея, што ў далейшым гэтыя стаўкі будзе фінансаваць дзяржава. Англічане ў аддзяленні маленькіх дзяцей фінансуюць стаўкі медсястры, масажыста, педагога і дэфектолага.

Дабрачынныя арганізацыі аказваюць матэрыяльную дапамогу, пастаўляюць адзенне, абсталяванне, вітаміны, памперсы, дэзадарыруючыя мыючыя сродкі, якія ва ўстановах такога тыпу можна прыраўнаваць да прадметаў першай неабходнасці. Прыехалі нейк з гуманітарнай дапамогай ірландцы, абшылі ўсе класы, прыкінулі, чаго там не хапае, і паабяцалі прывезці тэлевізары, відэа- і аўдыёмагнітафоны.

Аднак не менш важным, чым матэрыяльнае забеспячэнне, для дзяцей-інвалідаў з'яўляецца вырашэнне праблемы працоўнай рэабілітацыі, бо часта нават самая простая работа дазваляе ім набыць сэнс жыцця, ды і хто з урачоў не ведае, што развіццё малой маторыкі рук здольнае рэзка стымуляваць разумовае развіццё. Некалькі гадоў таму назад усё было прасцей: дом-інтэрнат браў заказы на выраб каробак, склейванне канвертаў, а на атрыманыя за гэта невялікія грошы дзяцей вазілі ў тэатр і цырк, куплялі ім марожанае, каб яны бачылі, што іх праца дае рэальную аддачу. У апошнія гады з працай стала значна цяжэй, зніклі нават гэтыя мізэрныя заказы, бо цяпер прадпрыемствы лічаць кожную капейку, а дабрачыннасць, як вядома, каштуе грошай, і немалых. Заказы зніклі, а працоўная рэабілітацыя зводзіцца да дапамогі па прыбіранні дома-інтэрната.

Замкнёныя ў абмежаванай прасторы сярод такіх жа, як яны самі, дзеткі ў першую чаргу пакутуюць ад дэфіцыту пяшчоты і любові. А таму выхавальнікі не перашкаджаюць з'яўленню на тэрыторыі інтэрната шчанюкоў і кацянят.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

*НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ МЕНШАСЦІ*

## ТАТАРСКАЯ УНІЯ

**У Мінску адбылося выязное пасяджэнне выканкома Сусветнага кангрэса татар (СКТ), прымеркаванае да 600-годдзя пасялення часткі гэтага народа на землях Беларусі. У ім прынялі ўдзел дэлегацыі Расійскай Федэрацыі, Літвы, Польшчы, іншых краін блізкага і далёкага замежжа, Масквы, Казані і Мінска.**

**Сёння ў свеце, па афіцыйнай статыстыцы, каля 11 мільёнаў татар. З іх пяць мільёнаў у Расійскай Федэрацыі, 1 мільён 700 тысяч — у Рэспубліцы Татарстан, у Беларусі — 12,5 тысячы чалавек, яшчэ менш у Польшчы і Літве.**

**Выканком заслухаў паведамленне кіраўнікоў польскай, літоўскай і беларускай абшчын аб стане спраў і праблемах, звязаных з адраджэннем самабытнай нацыянальнай культуры татар — нашчадкаў воінаў, якія шэсць стагоддзяў назад служылі ў войсках вялікага князя літоўскага Вітаўта.**

**Каб спыніць прагрэсіруючую асіміляцыю, яны сёння гатовы ўз'яднацца, стварыўшы унію, якая магла б увайсці ў склад Сусветнага кангрэса татар на правах філіяла.**

# НА ПАЛЯВАННЕ — СА СТРЭЛЬБАЙ І ПАЧУЦЦЁМ АДКАЗНАСЦІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

міяльнае" паляванне. Праўда, у Рэчыцкай паляўнічай гаспадарцы ад такой ліцэнзіі адмовіліся, бо на месцы паглядзелі, прааналізавалі і вырашылі: колькасць ласёў пакуль невялікая, таму рана распачынаць паляванне. Іншая справа — дзік ці казуля. Хаця паляванне на дзікоў значна больш складанае: можна ганяцца-ганяцца, ды так і застацца ні з чым. А лось? Што яго застрэліць, што карову...

Другі выпадак, калі выдаецца дазвол на лася, — зноў-такі ў мэтах захавання паляўнічых-ваўчатнікаў. Ваўкоў развялося шмат, з імі ўжо нават трэба змагацца.

*— А што вы скажаце пра такіх цяпер амаль экзатычных жывёл, як рысь, ліса, бабёр?*

— Рысь — чырванакніжная жывёліна. Тут забарона катэгарычная. Мы вельмі сур'ёзна думаем над кожнай заяўкай нават у навуковых мэтах. Колькасць рысяў на Беларусі вельмі малая. Аналагічнае становішча з барсуком — папуляцыя змяншаецца, і паляванне таксама забаронена. Ведаю, падобная сітуацыя склалася не толькі ў нас, але і ў суседзяў. Практычна не вядзецца і здабыча бабра. З пушных паляванне дазволена на норку, лісіцу і куніцу. Тут дастаткова мець "пуцёўку" — своеасаблівы паляўнічы пропуск. Аднак на адстрэл капытных, адлоў бабра, выдры і глушца неабходны спецыяльны разавы дазвол, інакш гэта ўжо будзе расцэньвацца як браканьерства.

*— Цікава, браканьераў становіцца больш?*

— Я б так не сказаў. Хутчэй наадварот — паменшала. За мінулы год мы склалі 2 999 пратаколаў на незаконнае паляванне, а зараз, бачу, браканьеры крыху сталі пабойвацца, можа таму, што павысілася патрабавальнасць да егераў, кіраўнікоў паляўнічых гаспадарак, увогуле кантроль стаў больш жорсткім.

Дарэчы, атрымаць законны дазвол — зусім не складана. У некаторых гаспадарках рэалізуецца толькі 60—70 працэнтаў ліміту на дзіка, 40 — на аленяў і казуль. Аднак той-сёй хоча ісці іншым шляхам, і звычайна гэта людзі не бедныя. Ведаю выпадак, калі падобныя гора-паляўнічыя на шасцісотым "Мерседэсе" ганялі па палях зайцоў. Пра што можна з такімі людзьмі размаўляць? Да іх трэба прымяняць санкцыі, іншага яны не разумеюць.

*— Ці часта вам даводзіцца весці судовыя працэсы ў адносінах да браканьераў?*

— Не часта, але бывае. Справа ў тым, што ахова паляўнічых угоддзяў непасрэдна не ўваходзіць у функцыянальныя абавязкі работнікаў Міністэрства прыроды. Гэтую абузу мы ўзвалілі на сябе добраахвотна. А што заставалася рабіць? Калегі з Міністэрства лясной гаспадаркі, хаця і маюць 16 тысяч лясной аховы, не вельмі рвуцца ў бой, таварыства паляўнічых і рыбаловаў пакуль валодае вельмі слабай уласнай юрыдычнай службай, якая яшчэ толькі фарміруецца.

Ну а калі кагосьці лавіш, складаеш пратаколы, адны адразу прызнаюць сваю віну, іншыя — упарцяцца. Тады пачынаюцца судовыя разбіральніцтвы. Аднак тыя два працэсы, што сёлета адбыліся, — мы выйгралі. У Чэрвені нашы работнікі затрымалі групу браканьераў, якія палявалі ноччу з-пад фар аўтамабіляў, а ў Пухавічах у браканьерстве былі замешаны нават работнікі міліцыі.

Увогуле, Міністэрства прыроды ў першую чаргу цікавіць узровень і арганізацыя вядзення паляўнічых гаспадарак, пытанні, звязаныя з аховай і рацыянальным выкарыстаннем жывёльнага свету. Астатняе — арганізацыйныя структуры, кадры, фінансы паляўнічых гаспадарак — нас не тычыцца. Але калі мы бачым: сядзіць дырэктар, пальцам не паварушыць, — падыход самы рашучы: ануляцыя ці прыпыненне ліцэнзіі для ўсёй гаспадаркі.

*— Такое здараецца?*

— Здараецца. Напрыклад, у Шуміліне, Оршы, Лепелі. Аднак у нас шмат гаспадарак, якімі мы ганарымся, дзе працуюць высокапрафесійныя і вельмі ініцыятыўныя людзі. У Талачыне не толькі поўны парадак з жывёлай, тут пачалі арганізоўваць паляванне для замежных турыстаў, што прыносіць гаспадарцы грошы, так неабходныя і для аховы жывёлы, і для падтрымання агульнай матэрыяльнай базы. Прыток інвестыцый збоку сёння для нас вельмі важны, бо ўласных грошай не хапае. Дарэчы, паляванне, як вядома, паўсюль у свеце — забава для нябедных людзей, і гэтым трэба карыстацца. Ведаю, польскія паляўнічыя гаспадаркі маюць нeблагі прыбытак менавіта за кошт прыёму замежнікаў. Праўда, ім прасцей: у Польшчы існуе даволі развітая інфраструктура, а ў нас тут праблема... Канешне, і мы не сядзім так сабе, нейк імкнемся выкруціцца, аднак, каб стан спраў па-сапраўднаму палепшыўся, патрабуюцца адпаведныя захады на агульнадзяржаўным узроўні. А што паказаць свету — мы маем. Неаднойчы даводзілася бачыць: еўрапейскія спецыялісты, павандраваўшы па Беларусі, літаральна за галаву хапаліся: "Вы такія багатыя!.. У вас такая непатурная прырода!" Нядаўна на Прыпяці, вышэй Турава, выяўлена вельмі рэдкая птушка — вяртлявая камышоўка. Да пяцідзесяці працэнтаў еўрапейскай папуляцыі — на Беларусі. Наша Акадэмія навук разам з фондам Міхаэля Ота праводзіла спецыяльныя даследаванні. Немцы былі проста ўражаны ўбачаным: прыгажосцю, чысцінёй і некранутасцю нашых запаведных мясцін. Па гэтай вяртлявай камышоўцы ў Мінску нават прайшла міжнародная навуковая канферэнцыя. Прырода — той непатурны скарб, які варта і берагчы, і памнажаць, ад таго будзе карысць і задавальненне кожнаму з нас.

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**



**Паляванне на ваўкоў.**

**Фота. В. ФЯДОТАВА.**

# ДА ДРУЖАЛЮБНАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА

**(Заканэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Для рэалізацыі азначаных накірункаў камітэт мае паўнамоцтвы ствараць механізмы рэалізацыі існуючых заканадаўчых актаў, уносіць прапановы па ўдасканаленні нарматыўна-прававой базы, вызначаць асноўныя напрамкі і каардынаваць навуковыя даследаванні, выступаць дзяржаўным заказчыкам па рэспубліканскіх мэтавых праграмах, супрацоўнічаць з адпаведнымі органамі іншых дзяржаў... Адной з першых спраў камітэта стаў збор справаздач адказных асноўных выканаўцаў Дзяржаўнай праграмы "Беларусы ў свеце". Аналіз атрыманай інфармацыі сведчыць аб значных намаганнях па яе выкананні.

Каб мець больш поўнае ўяўленне аб тым, як выконваецца праграма "Беларусы ў свеце", якія крокі робіць дзяржава дзеля ўмацавання сувязей з беларускай дыяспарай, у чым канкрэтна выяўляецца яе дапамога суайчыннікам, што жывуць за межамі Бацькаўшчыны, мы звярнуліся ў Міністэрства адукацыі і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

Расказвае галоўны інспектар упраўлення замежных сувязей Міністэрства адукацыі **ГЕНАДЗЬ ПЯЦІГОР.**

*— Надзвычай важным момантам лічу тое, што ў вышэйшых навучальных установах Беларусі зараз вучыцца больш за 200 юнакоў і дзяўчат, прадстаўнікоў беларускай дыяспары з Польшчы, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Малдовы. Яны вучацца ў Гомелі, Гродне, Мінску. У медінстытуце, педагагічным універсітэце, у Беларускім дзяржаўным універсітэце і іншых навучальных установах. Студэнты забяспечаны інтэрнатам, атрымліваюць стыпендыю, маюць тыя ж правы, што і грамадзяне Беларусі. Вось і сёлета было прынята на вучобу 30 чалавек.*

*Пачынаючы з 1994 года, для вучняў беларускіх школ з Літвы, для ліцэістаў з Беласточчыны мы праводзім экскурсіі па Беларусі, у час якіх дзеці знаёмяцца з радзімай бацькоў, з яе гісторыяй і культурай. Вучні наведваюць гістарычныя мясціны, тэатры, музеі. Усяго ў нас ужо пабывала 350 навучэнцаў.*

*У Польшчу і краіны СНД за апошнія некалькі гадоў намі адпраўлена больш за 60 тысяч экземпляраў кніг — падручнікаў, дапаможнай, мастацкай і даведачнай літаратуры. Штогод мы робім (і на наступны год ужо афармілі) падпіску выданняў па адукацыйнай тэматыцы для беларускіх суполак і школ за мяжой. Усяго выпісваем 21 найменне часопісаў і газет, такіх, як "Роднае слова", "Пралеска", "Вясёлка", "Пачатковая школа".*

*Міністэрства адукацыі штогод арганізоўвае курсы павышэння кваліфікацыі для настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры з краін СНД, Балтыі і Польшчы. Праводзяцца яны высокакваліфікаванымі спецыялістамі. Праграма навучэнцам прапаноўваецца змястоўная, водгукі станоўчыя. Нават той, хто не першы раз прыехаў на курсы, сцвярджае, што матэрыял не паўтараецца, кожны раз яны атрымліваюць новыя веды. Для слухачоў арганізоўваецца шырокая культурная праграма, што таксама папаўняе іх веды. За пяць гадоў на гэтых курсах навучалася больш за 100 настаўнікаў.*

*На працягу апошніх гадоў праводзім летні адпачынак дзяцей з краін СНД і Балтыі. Прымаюць іх аздараўленчыя дзіцячыя цэнтры "Зубраня" на Нарачы і "Маяк". Сёлета з Літвы, Латвіі, Малдовы адпачывала 120 чалавек. Акрамя таго, у пансіянаце "Свіцязь", на беразе маляўнічага возера з такой жа назвай, адбылося падвядзенне вынікаў алімпіяды па беларускай мове і літаратуры, якая праводзілася ў Польшчы. Да нас прыехала 40 чалавек. На працягу трох дзён яны адпачывалі, атрымалі падарункі ад Міністэрства адукацыі, сустракаліся з мясцовымі дзецьмі. Вучні з Валеўскай школы далі гасцям вялікі канцэрт, абмяняліся сувенірамі. Усе былі вельмі задаволены, і госці выказалі жаданне прыехаць да нас і ў наступным годзе.*

*Варта сказаць, што беларуская моладзь замежжа прымае ўдзел у Рэспубліканскай прадметнай алімпіядзе па беларускай мове. У 1995/96 годзе на базе факультэта беларускай філалогіі Беларускага педагагічнага універсітэта праходзілі практыку студэнты беларускага аддзялення Вільнюскага педагагічнага універсітэта. У 1995 годзе з нашай дапамогай быў адкрыты ў Беластоку дзіцячы сад. Паміж ім і дзіцячым садам № 543 Мінска было падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве. У Польшчу пасылаюцца цацкі, наглядныя дапаможнікі, метадычныя матэрыялы, неабходныя для вывучэння беларускай мовы. Зусім нядаўна перададзены гульневыя і вучэбна-метадычныя матэрыялы.*

*Начальнік упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь* **ТАДЭУШ СТРУЖЭЦКІ** *адказваў на нашы пытанні якраз напярэдадні Свята беларускай культуры, якое ладзілася ў Ціраспалі, Рыбніцы, Бендэрах. Туды паехалі фальклорны калектыў "Вязынка", прадстаўнікі беларускай творчай інтэлігенцыі. Прадстаўнікі беларускай дыяспары таксама азнаёміліся з выставай вырабаў беларускіх традыцыйных рамёстваў і промыслаў.*

*Як адзначыў Т. Стружэцкі, Міністэрства культуры аказвае вялікую дапамогу замежным беларусам у іх культурна-асветніцкай дзейнасці. Даўнія і трывалыя кантакты падтрымліваюцца з беларусамі Балтыі, Польшчы. Самадзейныя і прафесійныя мастацкія калектывы, дзеячы культуры — абавязковыя ўдзельнікі штогодняга народнага свята "Купалле" ў Белай Вежы, фестывалю польскай і беларускай песні "Беласток — Гродна", беларускіх народных вясковых святаў у Беластоцкім ваяводстве, свяце беларускай культуры ў Беластоку. Вядомыя дзеячы беларускай культуры з'яўляюцца членамі журы конкурсаў і фестываляў, як, напрыклад, народны артыст Беларусі Міхась Дрынеўскі. Дарэчы, і многімі мастацкімі калектывамі беларусаў у Польшчы кіруюць нашы спецыялісты, спрыяючы захаванню і распаўсюджванню нашай нацыянальнай культуры. З гэтай жа мэтай Міністэрства культуры на працягу ўжо некалькіх дзесяткаў гадоў арганізуе вучобу кіраўнікоў мастацкіх калектываў з-за мяжы на базе Беларускага інстытута праблем культуры. Чарговыя курсы прайшлі ў снежні. Слухачы атрымліваюць не толькі тэарэтычныя веды. Яны бываюць у вядомых беларускіх мастацкіх калектывах, наведваюць тэатры, музеі, іншыя ўстановы культуры і мастацтва.*

*Мастацкія калектывы замежжа атрымліваюць з Беларусі і матэрыяльную дапамогу. Толькі ў гэтым годзе перададзены беларускія сцэнічныя касцюмы для ансамбля Дома культуры ў Бельску, харавых калектываў Гайнаўкі і вёскі Агароднікі ў Польшчы, для дзіцячага ансамбля горада Друскінінкай у Літве. Набываюцца сцэнічныя касцюмы, музычныя інструменты, спецыяльная літаратура для ансамбляў беларускай песні Йыхві ў Эстоніі, Вісагінаса ў Літве і Крымскага беларускага таварыства.*

**— Іван Іосіфавіч, у многіх краінах існуе закон, што абараняе правы сваіх суайчыннікаў, якія жывуць за мяжой. У Беларусі пакуль такога закона няма. Ці будзе ён прыняты і як хутка!**

— Работа над стварэннем Закона аб дзяржаўнай палітыцы ў адносінах да суайчыннікаў, якія пражываюць за мяжой, вядзецца. Мы звярнуліся па дапамогу да спецыялістаў, якія займаюцца праблемамі дыяспары. Будзем раіцца і з замежнымі спецыялістамі, каб яны выказалі свае меркаванні аб праекце закона. Справа гэта працяглая. Дакумент прымаецца парламентам у першым чытанні, потым у другім. Усе законы праз гэта праходзяць. Таму, можа, на будучы год закона яшчэ і не прымуць, але рыхтаваць яго будзем.

**— У чым сэнс дзяржаўнай палітыкі ў адносінах да беларускай дыяспары!**

— Перш за ўсё, мы зацікаўлены, каб захаваць беларускую прысутнасць у свеце. У нас існуюць дамоўленасці з урадамі некаторых дзяржаў аб падтрымцы беларусаў, якія пражываюць на іх тэрыторыі, пагадненні паміж Міністэрствамі культуры Беларусі і Украіны, Малдовы, Літвы, Польшчы. У Літве, у Шальчынінкаі, напрыклад, ёсць Беларускі цэнтр, які мае сваё памяшканне, яго кіраўнік нават атрымлівае зарплату. Дарэчы, у Шальчынінкаі будзе адкрыты помнік Кастусю Каліноўскаму. Над яго стварэннем працуе скульптар Валерый Янушкевіч.

На ідэю захавання беларускай прысутнасці ў свеце мы працуем, калі дапамагаем беларускім школкам у Маскве, Польшчы, Літве ці Эстоніі, калі адпраўляем сцэнічныя касцюмы ў Друскінінкай, Вісагінас, Крымскую вобласць ці Гайнаўку; калі запрашаем на курсы кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці або накіроўваем беларускіх артыстаў для ўдзелу ў святах беларускай культуры. Разам з тым спадзяемся, што і беларусы замежжа будуць аказваць беларускай дзяржаве магчымую дапамогу.

Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей запрашае да ўзаемнага зацікаўленага супрацоўніцтва. Пішыце, тэлефануйце. Наш адрас: **220050, Мінск, вул. Берсана, 1-а. Тэлефон 222-46-66, тэл./факс 22-69-50.**

## ПАЛЕМІКА

# ПОШУК ІСЦІНЫ ЦІ ШАЛЬМАВАННЕ?

Цалкам абыходзіць У. Казбярук і падзеі, звязаныя з контррэвалюцыйным пераваротам у Вільні, ажыццёўленым варшаўскім ЦНК у пачатку сакавіка 1863 года, у выніку якога К. Каліноўскі быў адхілены ад пасады кіраўніка Віленскага паўстанцкага цэнтра, а апошні расфарміраваны і заменены "белым" Аддзелам кіраўніцтва правінцыямі Літвы. Гэтыя падзеі асветлены ў паказаннях члена ЦНК А. Авейдэ следчай камісіі (студзень 1865 года). Ён адзначыў факты выдалення са складу Літоўскага правінцыяльнага камітэта (ЛПК) у канцы 1862 года камісара ЦНК Н. Дзюлёрана, а затым і яго пераемніка, цвёрдасць і рашучасць, з якой ЛПК дамагаўся раўнапраўнасці ва ўзаемаадносінах з Варшавай і перадачы ў падпарадкаванне Вільні Беластоцкага ваяводства. Менавіта Авейдэ па даручэнні ЦНК вёў перамовы аб статусе ўзаемаадносін з упаўнаважаным ЛПК Э. Вярыгам. Апошні праявіў нястойкасць і пагадзіўся з шэрагам пунктаў, паводле якіх Вільня трапляла ў поўнае падпарадкаванне Варшавы. Толькі па пытанні аб тэрміне паўстання згода літоўскага прадстаўніка ў ЦНК была абавязковай: у іншым выпадку Літва — Беларусь не была абавязана прыняць вызначаны ў Варшаве тэрмін.

ЛПК адхіліў гэтае пагадненне і паслаў для перамоваў у Варшаву Б. Длускага. "Па нейкай сляпой цвёрдасці і яго, і камітэта віленскага ў гэтых неабгрунтаваных, на наш погляд, патрабаваннях, — адзначаў Авейдэ, — я, нягледзячы на ўсе мае намаганні, на ўсемагчымыя ўступкі з боку Цэнтральнага камітэта, не паспеў прыйсці да пагаднення з Длускім на працягу цэлых двух ці трох тыдняў. Гэтая абставіна была сапраўднай і вялікай шкодай для рэвалюцыі, таму што да самага моманту паўстання пагадненне паміж Вільняй і Варшавай не адбылося" (Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861—1862 гг. Документы и материалы, М., 1965. С. 166—167, 171).

К. Каліноўскаму і яго аднадумцам так і не ўдалося паўплываць на пазіцыі ЦНК. Галоўнай мэтай польскіх шляхецкіх рэвалюцыянераў нязменна заставалася аднаўленне Рэчы Паспалітай як польскай дзяржавы ў межах 1772 года, г. зн. з уключэннем у яе склад Беларусі, Літвы і Правабярэжнай Украіны. Права беларусаў, літоўцаў і ўкраінцаў на самавызначэнне свайго лёсу адмаўлялася. Катэгарычна адхілялася стаўка К. Каліноўскага на разгортванне сялянскай рэвалюцыі і адпаведная аграрная праграма, якая прадугледжвала перадачу ўсёй зямлі сялянству. Паўстанне рыхтавалася ЦНК як агульнанацыянальнае — з прыцягненнем да яго і шляхты, і сялян — пры вядучай ролі шляхты. Панам абяцалі захаваць іх маёнткі, а сялянам — адразу ж без выкупу і "часоваабавязаных адносін" (адбывання паншчыны і выплаты аброку) перадаць у поўную ўласнасць зямельныя надзелы, атрыманыя па царскай рэформе 1861 года. Немалаважным для памешчыкаў было і абяцанне аплаціць ім за кошт дзяржавы, г. зн. падаткаў з тых жа сялян, сялянскія надзелы.

Барацьбу з нацыяналістычнымі, вялікадзяржаўнымі памкненнямі польскіх шляхецкіх рэвалюцыянераў у дачыненні да Літвы-Беларусі, з іх устаноўкай на вядучую ролю шляхты ў паўстанні і крайне абмежаванай аграрнай праграмай, якая выключала магчымасць прыцягнення да барацьбы шырокіх мас сялянства, з іх настойлівымі спробамі падпарадкаваць сабе падпольную арганізацыю Літвы і Беларусі К. Каліноўскі і яго аднадумцы вялі на пасяджэннях ЛПК і ў ходзе перамоваў з ЦНК. У гарачых спрэчках з Н. Дзюлёранам Каліноўскі адстойваў права беларускага і літоўскага народаў на стварэнне самастойнай дзяржавы, неабходнасць падрыхтоўкі сялянскай рэвалюцыі пад лозунгам "Уся зямля сялянам", раўнапраўнасць і самастойнасць Віленскага цэнтра ў зносінах з Варшавай і інш. Справа, як паказана вышэй, дайшла да выключэння Н. Дзюлёрана са складу ЛПК. Звесткі аб гэтай барацьбе не трапілі ў падпольны друк. Ведалі і паведамілі аб ёй, аб пазіцыях Каліноўскага ў спрэчках А. Авейдэ, Ю. Яноўскі, Я. Гейштар, В. Пшыбароўскі, В. Ратч. Пры адсутнасці іншых крыніц іх інфармацыя мае унікальную каштоўнасць. Аднак яна цалкам праігнаравана У. Казберуком.

Маніфест і два аграрныя дэкрэты ЦНК ад 10(22) студзеня 1863 года паказалі, што ніводнае праграмнае патрабаванне літоўска-беларускіх рэвалюцыйных дэмакратаў Варшавай не было ўлічана. Больш таго: паўстанне было абвешчана без усялякага узгаднення з Вільняй, пры поўным ігнараванні ЛПК. ЦНК абвясціў сябе ў Маніфесце Часовым нацыянальным урадам на ўсёй тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай у межах 1772 года і праз галаву ЛПК звярнуўся да насельніцтва Літвы і Беларусі з заклікам падтрымаць паўстанне ў Польшчы. Цяжка ўявіць, якое абурэнне ўсё гэта выклікала ў ЛПК і асабліва ў яго кіраўніка К. Каліноўскага. У такой крытычнай сітуацыі члены ЛПК доўга вагаліся, як рэагаваць на дзеянні Варшавы. Згаданы вышэй пункт статута, прывезенага ў Вільню Э. Вярыгам, вызваляў Літву-Беларусь ад абавязку падтрымкі паўстання ў Польшчы, калі яно пачыналася без згоды ЛПК. І ўсё ж пасля 10 сутак цяжкага роздуму Віленскі камітэт 20 студзеня (1 лютага) 1863 года выдаў свой маніфест, адрасаваны "літоўцам, беларусам, жэмайційцам і жыхарам іншых абласцей, занятых рускімі", у якім абвясціў правы і свабоды, вызначаныя польскім нацыянальным урадам, яго аграрную праграму і заклікаў падтрымаць паўстанне ў Польшчы. Маніфест ад 1 лютага практычна азначаў, што ЛПК на чале з Каліноўскім у тых драматычных умовах дзеля адзінства дзеянняў пайшоў на прынцыповыя ўступкі польскім шляхецкім рэвалюцыянерам па ўсіх праграмных пытаннях і поўнасцю падпарадкаваўся Варшаве.

Тым не менш, там не было даверу да ЛПК, які абвясціў сябе Часовым правінцыяльным урадам Літвы і Беларусі. Гэта засведчыў А. Авейдэ. "З часу паўстання, — пісаў ён, — Длускі выехаў у Вільню, а тамтэйшы камітэт пастанавіў прыняць удзел у рэвалюцыі... Але тады ўжо **камітэт Віленскі ў вышэйпералічаным складзе (К. Каліноўскі, А. Банольдзі, Э. Вярыга, Я. Козел-Паклеўскі, Б. Длускі, З. Чаховіч. — М. Б.) не меў ніякага даверу ў нас**" (падкрэслена мною. — **М. Б.**). У лютым 1863 года Н. Дзюлёран дамовіўся з лідэрамі віленскіх "белых" Аскерам і Гейштарам аб захопе ўлады ў паўстанцкай арганізацыі Літвы-Беларусі і атрымаў згоду на гэта ад варшаўскага ўрада. 27 лютага (11 сакавіка) 1863 года яны адхілілі Часовы ўрад Літвы і Беларусі на чале з Каліноўскім і замянілі яго Аддзелам кіраўніцтва правінцыямі Літвы, які ўзначаліў Якуб Гейштар. Н. Дзюлёран зноў стаў прадстаўніком ЦНК у Вільні. Ад імя Аддзела быў распаўсюджаны спецыяльны дэкрэт, якім абвяшчаліся несапраўднымі і адмяняліся "ўсе паўнамоцтвы і мандаты", выдадзеныя ЛПК (Восстание в Литве и Белоруссии 1863—1864 гг. Документы и материалы. М., 1965. С. 11). У сувязі з гэтымі падзеямі А. Авейдэ заявіў следчай камісіі: "**Правінцыяльны камітэт** (ЛПК. — **М. Б.**) **не хацеў нейкі час уступаць, але па загаду Цэнтральнага камітэта** (падкрэслена мною. — **М. Б.**) **здаў і сваю арганізацыю** (падпольныя структуры на тэрыторыі Літвы-Беларусі. — **М. Б.**) **і самога сябе новаўстаноўленай у Вільні рэвалюцыйнай уладзе. Каліноўскі адзін пратэставаў супраць "шляхты"**, пратэст гэты, аднак, Дзюлёран у Варшаву не прыслаў" (падкрэслена мною. — **М. Б.**) (Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861—1862 гг. С. 168).

**Заканчэнне. Пачатак у № 50.**

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

## ШКОЛА, АБ ЯКОЙ МАРАЦЬ







**Жлобінскія будаўнікі ўзвялі новую школу ў мікраараёне металургаў па рыжскаму праекту. Асаблівасць яе — у максімальных зручнасцях як для педагогаў, так і для вучняў. Нестандартныя сямівугольныя класныя пакоі, асобны блок працоўнага навучання... Цяпер завяршаецца будаўніцтва басейна, спартыўнай залы і медыцынскага корпуса. Аддзелка будынка ўнутры будзе адпавядаць еўрапейскім стандартам. Казка, а не школа.**

**НА ЗДЫМКАХ: так выглядае новая школа. Яе будаўніцтва каштавала Беларускаму металургічнаму заводу 77 мільярдаў рублёў; Алене ГУСАКОВАЙ пашанцавала: пасля заканчэння Гомельскага універсітэта яна адразу стала настаўніцай гісторыі ў гэтай незвычайнай школе; клас інфарматыкі абсталяваны камп'ютэрамі "Самсунг" пятага пакалення.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

*НАМ ПІШУЦЬ*

## ХТО ЧУЎ ПРА «ЭСТРАДУ» М. КУЛІКОВІЧА?

Было гэта даўно, 50 гадоў назад, а здаецца, быццам бы ўчора. Хто можа забыцца аб усім вядомым у пасляваеннай Нямеччыне тэатры М. Куліковіча "Эстрада"? Той, хто бачыў і слухаў слаўную спявачку Барбару Вержбаловіч або артыстку, спявачку, канферансье Ірэну Жылінскую, якая зачароўвала ўсіх слухачоў сваім мяккім, далікатным, чысценька беларускім голасам, дэкламуючы паэму Я. Купалы "Бандароўна", помніць іх дагэтуль.

Калі мы даведаліся, што да нас мае прыехаць беларускі тэатр "Эстрада" на чале з М. Куліковічам, усіх жыхароў лагера "Беларуская вёска" ў Ватэнштэце ахапіла нейкая дзіўная радасць-зацікаўленне: хто яны такія і скуль узяліся?

Жыхары лагера пачалі рыхтавацца, як да вялікага свята, упрыгожвалі свае лагерныя памяшканні, завешвалі новыя фіранкі, засцілалі чысценька ложкі, бо хто ведае, мо і да іх звернуцца лагерныя ўлады з просьбай прыняць хоць бы на некалькі дзён артыстаў ды падзяліцца з імі, чым маглі ў тыя часы. Кожны жыхар быў і ахвочы, і рады прыняць такіх слаўных людзей. І можна смела сказаць (без перабольшвання), што ўсе жыхары лагера чакалі гэтай падзеі, як дзеці чакаюць Вялікадня, Каляд ці Дзеда Мароза. Урэшце гэты дзень надышоў, і "Эстрада" з М. Куліковічам з'явілася ў нашым лагеры. Праблем з размяшчэннем артыстаў не было. Наадварот, кожны жыхар хацеў "схапіць" артыста ці артыстку і частаваць чым мог. Мне, як заступніку лагернага каменданта паліцыі, было даверана даглядаць за парадкам не толькі падчас канцэрта, але і перад ім. Трэба было пракантраляваць, каб першыя тры рады крэслаў былі вольнымі для запрошаных гасцей — англічан, сярод якіх сядзелі камендант лагера Святаслаў Коўш, Хведар Ільяшэвіч, лагерныя свяшчэннікі Сурвіла і Свірыда. Таксама трэба было прасіць слухачоў, каб устрымаліся, па меры магчымасці, ад курэння падчас канцэрта, бо ў тыя гады, хто хацеў курыць — курыў, дзе хацеў. Але трэба сказаць, што ў нас у Ватэнштэце ўсё ішло, як і было прадбачана, бо кожны, хто не змог трапіць на першы дзень, ведаў, што пачуе беларускія песні і ўбачыць народныя танцы наступнага вечара. Пасля выступаў у Ватэнштэце "Эстрада" была запрошана ва ўкраінскі лагер Бранштайг (нейкіх 15 кіламетраў ад нас), дзе таксама пражывала вялікая колькасць беларусаў.

Мы, з лагернай паліцыі, заўсёды ездзілі з "Эстрадай", каб памагчы з продажам білетаў і таксама справіцца з усімі праблемамі, якія маглі ўзнікнуць. Дык нічога дзіўнага, што я памятаю не толькі Барбару Вержбаловіч і Ірэну Жылінскую, а і амаль усіх артыстаў. Адно што мне хочацца дадаць: у кожным украінскім лагеры Ірэну Жылінскую пасля дэкламацыі "Бандароўны" людзі ўзнагароджвалі такімі воплескамі стоячы, што ёй даводзілася два ці тры разы выходзіць з-за кулісаў і, дзякуючы, кланяцца аўдыторыі. Хто ніколі не бачыў ці не чуў аб "Эстрадзе" М. Куліковіча, таму я парадзіў бы прачытаць, што аб ёй піша П. З. у кніжачцы "Беларускі лагер Ватэнштэт" — "Незабыўныя дні", выдадзенай у ЗША ў 1981 годзе Святаславам Каўшом.

**Алесь ГАТКОВІЧ.**

Англія.

**НАВІНЫ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ**

### ЛІДСКІЯ ЧАСОПІСЫ

Пабачылі свет два нумары краязнаўчага і гісторыка-літаратурнага часопіса "Лідскі летапісец". Выданне расказала чытачам пра гісторыю заснавання Ліды, удзел беларусаў у бітве на Куліковым полі, змаганне лідскіх падпольшчыкаў супраць акупантаў у гады мінулай вайны, пра літаратара з Варшавы Земавіта Фядэцкага, які ў свой час жыў на Лідчыне і падарыў нядаўна землякам зборнік беларускіх народных песень, запісаных у тутэйшых вёсках. Цікавыя і іншыя публікацыі.

Застаецца нагадаць, што першы краязнаўчы часопіс "Ziemia Lidska" ("Лідская зямля") выходзіў у Лідзе на польскай мове ў 1936—1939 гады. Рэдактарам яго быў вядомы краязнаўца Віленшчыны Уладзіслаў Абрамовіч. У 1990 годзе выхад гэтага выдання адноўлены Таварыствам польскай культуры Лідчыны. І вось пачаў выходзіць штомесячнік падобнага кшталту на беларускай мове. А яшчэ матэрыялы такога зместу публікуе часопіс "Оникс", выдаваемы аднайменнай вытворча-камерцыйнай фірмай.

### ПАМЯЦІ ПАЎСТАНЦАЎ

Незвычайная ўрачыстасць адбылася ў вёсцы Арцішы, што паблізу мястэчка Васілішкі Шчучынскага раёна. Тут адноўлены і асвячоны крыж, які ўшаноўвае памяць паўстанцаў 1863 года.

Крыху раней падобны знак ушанавання самаахвярнасці ўдзельнікаў нацыянальна-вызваленчага паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага ўстаноўлены на іх магіле каля вёскі Мохавічы Лідскага раёна.

### ДАРУНАК МЯЧЭЦІ

Нядаўна адноўленая ў Навагрудку мячэць атрымала дарагі дар — кнігу свяшчэннага пісання, выдадзеную ў канцы мінулага стагоддзя на татарскай мове. Прынёс дарунак у храм мясцовы вернік мусульманін Бекір Шчансновіч. Ён атрымаў гэты бясцэнны твор з рук свайго бацькі з наказам: "Захавай, сынок, і зберажы гэту кніжку да лепшага часу". І вось праз паўвека прыйшла доўгачаканая пара. І зноў рэдкі старадрук служыць духоўнай справе тутэйшых татар.

### ВУЧАЦЦА Ў ЛІЦЭІ

Ліцэй для дарослых лідчан працуе ў мясцовым Доме паляка. Разам з палякамі іх мову пажадалі вывучаць і людзі іншых нацыянальнасцей. А яшчэ ў гэтым асяродку польскасці ў пяці групах навучаюцца дзеці школьнага ўзросту. Заняткі вядуць кваліфікаваныя настаўнікі, якія прайшлі падрыхтоўку ў Польшчы.

### КНІГА ПРА БЕНЯКОНІ

У мястэчку Беняконі, што на Воранаўшчыне, творыць на польскай мове паэт Міхал Валасевіч. Піша ён пераважна пра каханне Адама Міцкевіча і Марылі Верашчакі, якая жыла ў недалёкіх Больценіках, аб роднай старонцы і вяскоўцах, сэнсе чалавечага жыцця. Вершы на гэтую тэматыку змешчаны ў паэтычным зборніку М. Валасевіча, выдадзеным у Пазнані пад назвай "Коні Беня".

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ.**

**З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ**

## НАВУКОВАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ Ў САКОЛЦЫ

16 лістапада беларускую грамаду сустракала Саколка. Горад гэты добра вядомы беларусам, што па розных справах едуць у Польшчу, як адзін з прыгранічных прыстанкаў з польскага боку. Большасць з іх успрымаюць Саколку, ці па-польску Сакулку, як чужы замежны край і не маюць ніякага ўяўлення пра беларускія карані на Сакольшчыне. Каб запоўніць гэтыя "белыя плямы" ў нашых ведах, і была арганізавана ў Саколцы навуковая канферэнцыя "Беларусы Сакольшчыны". Арганізатар яе — Беларускае гістарычнае таварыства ў Польшчы і найперш яго кіраўнік, гісторык, грамадскі дзеяч Алег Латышонак з Беластока. Пасяджэнні адбываліся ў Сакольскім Доме культуры па вул. Гарадзенская, 1. Прысутнічалі беларускія навукоўцы з Польшчы і з Беларусі.

Са змястоўнымі дакладамі выступілі Эдвард Зайкоўскі (Мінск), Уладзімір Сосна (Мінск), Валянцін Голубеў (Мінск), Генадзь Семянчук, Токць Сяргей і Жук Ігар з Гародні, Алена Глагоўская з Гданьска, Харужы Вячаслаў і Алег Латышонак з Беластока.

Была наладжана выстава дакументаў і матэрыялаў па гісторыі Сакольшчыны. Гэты рэгіён у беларускай гісторыі займае своеасаблівае месца. Сакольшчына дала жыццё многім вядомым беларускім дзеячам. Адсюль пахсдзяць Зоська Верас, Чаржынскі, Мікалай Чарнецкі, Уладзіслаў Казлоўскі, Янка Чарапук, кампазітар Янка Тарасевіч і іншыя.

Як падкрэслівалі многія дакладчыкі, Сакольшчына з даўніх часоў славілася сваім вольным духам, тут быў больш, чым у іншых месцах, працэнт вольных сялян. Па свайму нацыянальнаму складу Сакольшчына адрознівалася найбольшай колькасцю менавіта беларускага насельніцтва — больш за 80 працэнтаў, пра яе гаварылі як пра самы беларускі рэгіён. Ішла размова і пра беларускую праваслаўную царкву на Сакольшчыне. У канферэнцыі браў удзел айцец Уладзімір Місяюк, які працуе ў царкве ў Саколцы. Айцец Уладзімір запомніўся многім сваім палымяным выступленнем на Першым з'ездзе беларусаў свету ў 1993 годзе.

На завяршэнне канферэнцыі адбыўся канцэрт беларускіх рамансаў у выкананні вядомага опернага спевака з Мінска, кіраўніка "Беларускай капэлы", даследчыка гісторыі беларускай музыкі Віктара Скарабагатава і яго акампаніятара Ганны Каржанеўскай. В. Скарабагатаў выступіў на канферэнцыі з дакладам пра кампазітара Янку Тарасевіча. Яму ўдалося знайсці таксама гэтым разам і магілку кампазітара, чый лёс быў моцна звязаны з Сакольшчынай.

Зроблены яшчэ адзін важны крок у вывучэнні гісторыі беларускай прысутнасці на Беласточчыне. Гэтая прысутнасць не павінна адысці ў нябыт. Агеньчык беларускага нацыянальнага жыцця яшчэ гарыць у гэтым краі.

**Ганна СУРМАЧ,**
**старшыня рады ЗБС "Бацькаўшчына".**

# ПОШУК ІСЦІНЫ ЦІ ШАЛЬМАВАННЕ?

**(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).**

Пратэст падаваўся ад імя ЛПК. "Правінцыяльны камітэт, — гаварылася ў ім, — саступае і падпарадкоўваецца галаве паўстання таму, па-першае, што не жадае распачынаць згубных для рэвалюцыі звадаў і нязгодаў, і, па-другое, таму, што не адчувае сябе дастаткова моцным, каб вырваць кіраўніцтва справамі з рук сваіх праціўнікаў.

Аднак члены камітэта лічаць сваім абавязкам заявіць разам з тым, што яны лічаць гібеллю і здрадай рэвалюцыі перадачу кіраўніцтва ў рукі контррэвалюцыянераў... што яны пратэстуюць супраць такога рашэння Цэнтральнага камітэта, здымаюць з сябе ўсякую адказнасць перад будучыняй за ўсе памылкі і за ўсе страты і няшчасці, якія прынясе супраціўнае духу і тэндэнцыям паўстання кіраўніцтва літоўскай справай" (Цыт. па: Кісялёў Г. Каліноўскі знаёмы і незнаёмы. Полымя, 1993. № 6. С. 225).

**Такім чынам, з прычыны слабасці нацыянальных рэвалюцыйна-дэмакратычных сіл у Літве-Беларусі К. Каліноўскі вымушаны быў супрацоўнічаць з польскімі шляхецкімі рэвалюцыянерамі-нацыяналістамі, фактычна — падпарадкоўвацца іх цэнтрам, дзейнічаць ад імя польскага нацыянальнага ўрада і прытрымлівацца ўстаноўленай ім праграмы.** Магчымасці звярнуцца да беларускага і літоўскага народаў з праграмай барацьбы, якая істотна адрознівалася б ад праграмы ЦНК, напрыклад, уключала б лозунгі перадачы ўсёй зямлі сялянам і абвяшчэння дзяржаўнай самастойнасці Літвы-Беларусі, у яго не было. У выпадку непадпарадкавання яму пагражала абвінавачанне ў дзяржаўнай здрадзе з адпаведнымі наступствамі. Пра гэта недвухсэнсоўна гаварылася ў п. 5 Дэкрэта Аддзела кіраўніцтва правінцыямі Літвы аб ліквідацыі ЛПК ад 27 лютага (11 сакавіка) 1863 года: "**Невыкананне або затрымка выканання загадаў як Нацыянальнага ўрада, так і яго чыноўнікаў і агентаў, самаўпраўныя дзеянні ў сучасных абставінах з'яўляюцца дзяржаўнай здрадай; вінаватыя ў такім злачынстве падлягаюць неадкладнаму пакаранню па ўсёй строгасці польскага ваеннага права**" (Восстание в Литве и Белоруссии в 1863—1864 гг. С. 12).

Абмінуўшы ўсе адзначаныя факты і падзеі, У. Казбярук заяўляе: "Ніхто з польскага кіраўніцтва ніколі не абяцаў К. Каліноўскаму незалежнасці так званай Літвы. Змаганне вялося за адзіную і непадзельную Польшчу. І тым не менш Каліноўскі паслухмяна выконваў загады цэнтра, ва ўсёй дзейнасці няўхільна кіраваўся імі, заўсёды спасылаўся на іх". **Удакладнім: "выконваў", "кіраваўся", "спасылаўся", але толькі пасля таго як пераканаўся ў тым, што "не адчувае сябе дастаткова моцным, каб вырваць кіраўніцтва справамі з рук сваіх праціўнікаў", што далейшае супраціўленне пагражае яму абвінавачаннем у дзяржаўнай здрадзе, пакараннем смерцю. Да таго часу змагаўся за рэалізацыю сваёй праграмы.** І гэтае змаганне, дарэчы, не засталося зусім бясплённым. Думаецца, што менавіта яно паўплывала на з'яўленне ў дэкрэце ЦНК ад 10 мая 1863 года пункта аб забеспячэнні "братнім народам Літвы і Русі, злучаным з Польшчаю, найшырэйшага развіцця нацыянальнасці і мовы". Бо ніхто іншы ў паўстанцкім асяроддзі, акрамя К. Каліноўскага і яго аднадумцаў у ЛПК, гэтага пытання не ўзнімаў.

У дадатак да сказанага У. Казбярук паказвае К. Каліноўскага і яго паплечнікаў як крывавых тэрарыстаў і прадцечаў "жалезнага Фелікса". Некрытычна выкарыстоўвае пры гэтым неправераныя звесткі В. Ратча аб стварэнні па ініцыятыве Дзюлёрана, Каліноўскага і Малахоўскага "крымінальнага суда (трыбунала) з неадкладнай карай за непадпарадкаванне (жандарамі — кінжальшчыкамі і вешальнікамі)", і пераўтварэнні баявых шаек "у шайкі жандараў-вешальнікаў", а таксама данясенне гродзенскага губернатара, генерал-маёра Галера аб рэпрэсіях паўстанцаў у Бельскім, Сакольскім і Беластоцкім паветах, у выніку якіх былі павешаны некалькі чалавек. У данясенні чамусьці ні слова не сказана аб прычынах гэтых рэпрэсій. Не паспрабаваў высветліць іх і У. Казбярук. У выніку ў чытача складваецца ўражанне, што паўстанцы без усялякай прычыны расправіліся з тымі людзьмі.

**Тэндэнцыйнасць, зададзенасць, аднабаковасць падыходаў У. Казберука да асвятлення паўстання і постаці К. Каліноўскага відавочныя. Падыходы гэтыя вызначаюцца пунктам гледжання расійскіх імперскіх гісторыкаў. Падкрэсліваючы жорсткасць паўстанцаў, У. Казбярук цалкам замоўчвае ваенны тэрор і масавыя рэпрэсіі царскіх уладаў. Не знойдзем у яго згадак пра да**кументы, якія сведчаць, што вёскі, дзе паўстанцы знаходзілі падтрымку, цалкам спальваліся, маёмасць жыхароў прадавалася з аўкцыёну, а самі яны высылаліся ў аддаленыя губерні Расіі (гл.: Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Мн., 1940. Т. II. С. 533, 548—550). Не адзначаны факты расстрэлу людзей, што чыталі паўстанцкі маніфест, прысуду да 6-гадовых катаржных работ толькі за чытанне "Мужыцкай праўды" (Там жа. С. 484, 524). Не палічыў неабходным аўтар паведаміць пра тое, што ў сувязі з паўстаннем у Беларусі і Літве былі пакараны смерцю (публічна расстраляны ці павешаны) 123 чалавекі, сасланы на катаргу ў Сібір і ў арыштанцкія роты 12 355, высланы з краю без следства і суда 3 776 чалавек (Самбук С. М. Политика царизма в Белоруссии во второй половине XIX в. Мн., 1980. С. 25—26).

Запалохваючы насельніцтва Беларусі і Літвы масавымі, незвычайна жорсткімі рэпрэсіямі ў дачыненні да ўсіх, хто падтрымліваў паўстанне, царскі ўрад разам з тым прымаў эканамічныя і іншыя захады, каб прыцягнуць на свой бок мясцовых сялян. Указам ад 1 сакавіка 1863 годы ў Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай і Мінскай губернях адмянялася "часоваабавязанае становішча", г. зн. адбыванне сялянамі ўстаноўленых Палажэннямі 19 лютага 1861 года павіннасцей (у тым ліку паншчыны) на карысць памешчыкаў, і паніжаліся выкупныя плацяжы на 20 працэнтаў. Пасля выдання гэтага ўказа аграрная праграма польскага нацыянальнага ўрада адрознівалася ад таго, што даў беларускім сялянам Аляксандр II фактычна адным пунктам — абяцаннем перадаць атрыманыя імі паводле Палажэнняў 19 лютага надзелы ва ўласнасць адразу і без выкупу (пры кампенсацыі памешчыкам страт за кошт дзяржавы). Адзначым, што ў гэтай частцы сцвярджэнні М. Драгаманава, якія цытуе У. Казбярук, недакладныя: выкупу надзелаў непасрэдна сялянамі варшаўскія аграрныя дэкрэты не прадугледжвалі. Дэкрэту паўстанцкага ўрада аб надзяленні беззямельных сялян 3 моргамі зямлі за ўдзел у атрадах М. Мураўёў супрацьпаставіў цыркуляры аб вяртанні сялянам, абеззямеленым памешчыкамі да 20 лістапада 1857 года, поўных надзелаў і надзяленні тых, ад каго зямля была адабрана раней, 3 дзесяцінамі на сям'ю. Масавае непадпісанне сялянамі Беларусі ўстаўных грамат, складзеных у 1861—1862 гадах, прымусіла ўлады ў 1863 годзе пайсці на перагляд іх і яшчэ раз істотна зменшыць выкупныя плацяжы.

У такіх умовах абмежаваная аграрная праграма польскіх шляхецкіх рэвалюцыянераў, якая пакідала некранутым велізарнае памешчыцкае землеўладанне, амаль не ўздзейнічала на сялян Беларусі. Па падліках С. Самбук, вядома, што сярод паўстанцаў на сучаснай беларускай тэрыторыі сяляне складалі толькі 18 працэнтаў. Найбольш нізкай іх удзельная вага была на Віцебшчыне і Магілёўшчыне (Гл: Гісторыя Беларускай ССР, т. II. Мн., 1972. С. 58—59). Акрамя эканамічных мерапрыемстваў царскага ўрада на пазіцыі сялян Беларусі моцна паўплывалі лжывыя правакацыйныя чуткі аб тым, што польскія паны паўсталі супраць рускага цара, помсцячы яму за адмену прыгоннага права і з мэтай аднавіць прыгон. Такія чуткі праз дзяржаўныя ўстановы і праваслаўную царкву шырока распаўсюдзіліся, і сяляне ў масе ім верылі. У выніку здарылася тое, што прадбачыў і аб чым папярэджваў Варшаву К. Каліноўскі: значная частка сялян Беларусі, асабліва Віцебскай і Магілёўскай губерняў, актыўна падтрымала не паўстанне, а карныя войскі расійскага цара.

"Сяляне ўсіх паветаў, — дакладваў у Пецярбург віцебскі губернатар генерал-маёр Вяроўкін, — ...самі добраахвотна і хутка з'явіліся на абарону краіны і з іх энергічным садзеяннем натоўпы мяцежнікаў, не паспеўшы нават колькі-небудзь сфармавацца, былі на працягу некалькіх дзён разбіты, перахоплены і канчаткова знішчаны, так што ў пачатку мая ў межах Віцебскай губерні ўзброеных шаек увогуле ўжо не існавала. Сяляне, асабліва часоваабавязаныя, з радасцю з'явіліся на заклік начальства ... аб фарміраванні ўзброеных каравулаў і сельскай стражы, яны з выдатнай добрасумленнасцю і спрытнасцю выконвалі ўскладзеныя на іх абавязкі па назіранні на дарогах і ў сёлах за ўсімі праезджымі ўвогуле і за асобамі падазронымі ў асаблівасці. Яны... затрымалі многіх злачынцаў". Аналагічным было становішча і ў Магілёўскай губерні. У данясенні **жандарскага палкоўніка Сакалова паведамлялася, што толькі ў Магілёўскім павеце сяляне затрымалі і здалі ў паліцыю больш за 100 чалавек, якія, на іх думку, удзельнічалі ў паўстанні ці падтрымлівалі яго матэрыяльна. Такія факты, хоць і значна радзей, здараліся і ў цэнтральна-заходняй Беларусі (Гл.: Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі, т. II, С. 484, 517, 518, 523—524).**

Ствараючы ў кожнай вёсцы Беларусі ўзброеныя каравулы і сельскую стражу, урад фактычна мабілізаваў сялянства на барацьбу з паўстанцамі.

Менавіта ў сувязі з гэтымі мерамі царызму, правакацыйнай агітацыяй уладаў і фактамі затрымання сялянамі паўстанцаў і выдачы іх паліцыі Віленскі паўстанцкі цэнтр 11 чэрвеня 1863 года выдаў "Прыказ ад ураду Польскага над цэлым краем Літоўскім і Беларускім да народу зямлі Літоўскай і Беларускай", у якім выкрывалася лжывасць афіцыйнай прапаганды аб паўстанні як справе польскіх паноў, і заяўлялася: "Но дзело нашэ — не дзело панское, а справядлівай вольносці, якой вашы дзяды ды бацькі здаўна ждалі, а якую маскаль з крывапійцамі вашымі спыніці хоча! Дзело вашэ — гэто дзело такой вольносці, якую сам Бог, прыйшоўшы на гэты свет, хацеў устанавіці..." "Прыказ" папярэджваў усіх, хто хацеў "няволі маскоўскай" і выступаў супраць паўстанцаў, аб адказнасці за свае паводзіны: такія людзі незалежна ад сваёй саслоўнай ці канфесійнай прыналежнасці падлягалі публічнаму суду на сходзе сельскай грамады і павешанню. "Пан будзе ліхі — пана павесім як сабаку! Мужык будзе кепскі — то і мужыка павесім", — гаварылася ў "Прыказе". Але, заўважым, загад абавязваў рабіць гэта пасля публічнага судовага разбору, а не так, як прадставіў падобныя факты гродзенскі губернатар (і У. Казбярук): з'явіліся ў вёсцы ці мястэчку паўстанцы, схапілі аднаго ці некалькі чалавек і павесілі ў лесе.

Цалкам абмінуўшы агульнавядомыя дакументы аб добраахвотным удзеле часткі сялян у барацьбе з паўстанцамі, У. Казбярук паказаў К. Каліноўскага і яго паплечнікаў як крывавых катаў, якія сілай ("агнём і шыбеніцай") прымушалі сялян ... далучацца да паўстання і бязлітасна каралі іх у выпадку адмовы. "Дык што ж заставалася рабіць з адстаўнымі салдатамі, якія не хацелі ісці ваяваць за ронд польскі?" — рытарычна пытаецца ён. І адказвае: "Толькі адно — весці на шыбеніцу". Прывёў далей вытрымку з № 7 "Мужыцкай праўды": "А такіх, што за грошы не пабаяліся служыць ворагам нашым, што не хацелі мужыкам зямлі да праўды на свеце, да спрэчны былі новай вольнасці да новаму польскаму маніхвесту, гэтакіх вешаюць як подлых сабак, селішчы іх апусцелі, пайшлі з дымам іх хаты, прапала марна худоба". Выкарыстаў гэтыя радкі для разважанняў на тэму: "Каго і за што К. Каліноўскі і яго паўстанцы вешалі "як подлых сабак" і з дымам пускалі іх хаты?" Праігнараваў пры гэтым дакладнае тлумачэнне "Мужыцкай праўды", да якіх людзей прымяняліся такія пакаранні: да тых, "хто за грошы не пабаялісь служыць ворагам нашым". Як і каму служылі многія сяляне ў 1863 годзе, добра паказалі віцебскі губернатар генерал-маёр Вяроўкін, жандарскі палкоўнік Сакалоў і іншыя карнікі. Яны і ўзнагароджвалі сваіх добраахвотных прыслужнікаў пэўнымі грашовымі сумамі за кожнага злоўленага і здадзенага ўладам паўстанца. Усё гэта — рэаліі таго трагічнага часу. Паўстанцы вымушаны былі караць (праз публічны суд!) тых, хто садзейнічаў царскім карнікам. Папярэджвалі аб гэтым у "Прыказе"...", "Мужыцкай праўдзе". Ці маглі яны паступаць інакш? На мой погляд — не! Таму ўсе разважанні У. Казберука па пытанні, "каго і за што К. Каліноўскі і яго паўстанцы вешалі", цалкам надуманыя, беспадстаўныя.

Выкарыстоўваючы ненавуковыя метады дыскусіі, У. Казбярук у даным артыкуле паказаў Каліноўскага адназначна як польскага нацыяналіста, які верна і самаахдана служыў "ронду польскаму", а ў адносінах да беларускіх сялян праявіў сябе як крывавы кат-тэрарыст, прадцеча "жалезнага Фелікса". У ачарненні Каліноўскага ён моцна наблізіўся да пісанняў нейкага К. Кавалеўскага, апублікаваных у пачатку гэтага года ў газеце "Во славу Родины" пад загалоўкам "Правда об одном сражении Калиновского". Спаслаўшыся на сваю бабулю Параску (Прасковью), якая, паводле слоў аўтара-ўнучка, памёрла ў 1942 годзе ва ўзросце 94 гадоў, ён апавядае, што летняй раніцай 1863 года ў мястэчка Быцень Слонімскага павета (зараз Івацэвіцкі раён) падышлі атрады К. Каліноўскага. Далей цытую паводле арыгінала: "На площади возле собора построили виселицу. Окружили жителей деревень Бытень, Заречье, Козино, Рудня, Мантюты и Заполье и стали силой сгонять их на площадь у собора, не щадя ни стариков, ни детей, ни беременных женщин. Тех, кто сопротивлялся, били нагайками, а наиболее строптивым привязывали руки к конскому хвосту и, избивая, силой волокли на площадь. Больных заставляли вести под руки, а тех же, кто не мог идти, били. Раздавался громкий плач женщин и детей.

Собрав на площади народ, Калиновский объявил, чтобы все без исключения переходили из православной веры в католическую, а кто не послушается, того повесят. В народе началась паника, конные люди стали избивать мечущихся людей. Сам Калиновский разъезжал на белом коне и бил наиболее сопротивлявшихся, а его воины тут же на площади стали насиловать женщин и девушек..."

**Ух! Здаецца, хопіць. Тых, хто зацікавіўся апавяданнем бабулі Парасі ў перадачы ўнучка К. Кавалеўскага, адсылаю да арыгінала: газ. "Во славу Родины", 1997, 4 марта. Гэты опус апублікаваны таксама ў нейкім царкоўна-праваслаўным выданні (назвы, на жаль, не памятаю).**

**Міхась БІЧ.**

## КУПАЛА ЯДНАЕ ЎСІХ...

Для кожнага чалавека павінен існаваць покліч, які зрушыць сэрца і душу, прымусіць да дзеяння і яднання. Для беларусаў гэта імя народнага песняра Янкі Купалы. Менавіта яно злучыла ўдзельнікаў Міжнародных купалаўскіх чытанняў, што адбываліся 25—26 лістапада ў Гродне. Мерапрыемства было арганізавана і праведзена сумеснымі намаганнямі Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы і Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук. Пра тое, што гэта не была звычайная дзяжурная акцыя, сведчыць і склад удзельнікаў, і ўзровень дакладаў, і надзвычайная атмасфера чытанняў. На канферэнцыі прысутнічалі прадстаўнікі кіраўніцтва Літаратурнага інстытута на чале з выконваючым абавязкі дырэктара, членам-карэспандэнтам НАН У. Гніламёдавым. Прыехалі вучоныя і даследчыкі з усіх ВНУ рэспублікі, гісторыкі, культуролагі, краязнаўцы і настаўнікі.

Цёплымі словамі адкрыў чытанні рэктар Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Я. Купалы прафесар С. Маскевіч. Непарыўную повязь творчасці беларускага генія і нацыянальнай паэзіі асэнсаваў у сваім дакладзе прафесар У. Гніламёдаў, аўтар сучаснага даследавання "Янка Купала: Новы погляд" (1995). Падзяліўся ідэямі, напрацоўкамі і праблемамі выдання Першага поўнага збору твораў Я. Купалы член-карэспандэнт М. Мушынскі. Арыгінальна і прачула выступалі прафесар М. Мішчанчук і пісьменнік Сакрат Яновіч з Польшчы.

Глыбінёй і шчырасцю былі пазначаны словы кожнага ўдзельніка. Літаратуразнаўчы аспект значна ўзмацняўся філасофскай і культуралагічнай падсветкай. Распрацоўкі пытанняў тэксталогіі і перакладу арганічна злучаліся з мовазнаўчымі даследаваннямі. Найноўшыя архіўныя знаходкі і краязнаўчыя адкрыцці гучалі арыгінальным дапаўненнем. І, безумоўна, надзвычай важнымі аказаліся метадалагічныя распрацоўкі выкладчыкаў ВНУ і настаўнікаў сярэдніх школ. Такім чынам, не засталося ніводнай сферы культурнага жыцця і ніводнай праявы нацыянальнай свядомасці, якія б не былі прадстаўлены і асэнсаваны на гэтым свяце.

Тое, што постаць і спадчына Купалы з'яўляюцца агульнымі для ўсіх, засведчыў і надзвычайны акт добрай волі, здзейснены Нацыянальным літаратурным музеем Янкі Купалы: перадача Гродзенскаму дзяржуніверсітэту бюста народнага песняра работы А. Бембеля.

Трэба адзначыць, што эканамічныя варункі з'явіліся значнай перашкодай для прыезду многіх удзельнікаў. Тым больш важнай уяўляецца спонсарская падтрымка з боку Упраўлення культуры Гродзенскага аблвыканкома і многіх прадпрыемстваў горада, а таксама Саюза палякаў Беларусі.

Злучыць усе намаганні, творчыя і дабрачынныя, у адно цэлае ўдалося дзякуючы высілкам супрацоўнікаў кафедры беларускай літаратуры ГДУ на чале з загадчыкам дацэнтам М. Мікулічам.

**Анатоль РАМАНЧУК.**

## СУСТРЭЧА З ПАЭТАМ-ЗЕМЛЯКОМ

Творчасць, жыццё Алеся Пісарыка цесна звязана з пухавіцкай старонкай. Многія вершы паэта — пра Дукору і Беразянку, іншыя пухавіцкія паселішчы, пра ўраджэнцаў Пухаўшчыны. Таму і не дзіўна, што з радасцю сустрэлі жыхары Мар'інай Горкі свайго земляка на творчай вечарыне, якая прайшла ў раённым Палацы культуры. Алесь Пісарык чытаў свае вершы, расказваў пра пэўныя адмеціны сваёй творчай біяграфіі. Віталі паэта майстры беларускай эстрады Якаў Навуменка, мастацкі калектыў "Ярыца". Выдатна адрэжысіраваў праграму літаратурна-мастацкага вечара Мікола Котаў.

Усе прысутныя на вечары маглі набыць і кнігі, што распаўсюджваліся на вечары, — зборнікі вершаў Алеся Пісарыка, выдадзеныя ў апошнія гады.

Варта заўважыць, што на Пухаўшчыне досыць уважліва ставяцца да асветніцкай работы, да прапаганды творчасці пісьменнікаў-землякоў. Сёлета ўжо ўшаноўвалі памяць Валянціна Мысліўца. Прайшлі ў раёне і мерапрыемствы ў знак 115-й гадавіны з дня нараджэння Якуба Коласа. На сустрэчах са школьнікамі, грамадскасцю Пухаўшчыны пабывалі Генрых Далідовіч, Міхась Зарэмба, Васіль Шырко.

— Спадзяюся, што і ў 1998 годзе не абмінём увагай літаратурныя традыцыі, клопаты па ўшанаванню пісьменнікаў-землякоў, іх творчасці, — дзеліцца сваімі развагамі дырэктар Пухавіцкага раённага краязнаўчага музея Аляксандр Пpановіч. — У 1998 годзе ў нас мяркуецца адзначыць 80-годдзе з дня нараджэння вядомага паэта Алеся Бачылы. Відаць, не адно пакаленне добра памятае яго верш "Радзіма мая дарагая". З'явілася ў нас і адна выключная традыцыя. Штогод праводзім своеасаблівы дзень памяці народнага пісьменніка Беларусі Івана Чыгрынава. Вядомага празаіка многае звязвала з Пухаўшчынай: і лецішча ў Блужы, і частыя сустрэчы з пухаўчанамі.

**Да слоў музейнага работніка варта, пэўна, дадаць, што мэтанакіраваная літаратурна-асветніцкая работа магчымая ў раёне дзякуючы руплівасці і дбайнасці мясцовых улад.**

**Святлана ТУРЫНСКАЯ.**

*СЛОВА ПРА «САМОТНАГА ПАЭТА» ЯНКУ ЗОЛАКА*

# ПА-ЗЯМНОМУ ШЧЫРА

1 лістапада Янка Золак адзначыў сваё 85-годдзе. Тым большая нагода у сувязі з гэтым перагарнуць старонкі яго кнігі "Вятрыска з радзімай краіны", што мае падзагаловак "Збор выбраных твораў" і пабачыла свет дзякуючы Беларускай асацыяцыі "Дзелавая ініцыятыва", а калі канкрэтней — паэту Леаніду Пранчаку, які з'яўляецца укладальнікам гэтага даволі аб'ёмнага тома, а таксама напісаў да яго прадмову "Самотны паэт. Гутарка з маўклівым чалавекам". У прадмове Л. Пранчак не толькі дзеліцца ўражаннямі аб творчасці Я. Золака, а і прыводзіць размовы, якія адбыліся ў іх у Злучаных Штатах Амерыкі, у горадзе Мільтаўне, дзе цяпер і жыве паэт.

Янка Золак, як цяпер прынята казаць, прадстаўнік літаратуры беларускага замежжа. Правільней, той плыні яе, што з'явілася пасля таго, як у эміграцыі ў сувязі з заканчэннем другой сусветнай вайны і нават раней, з пачаткам вызвалення Беларусі, апынуліся многія прадстаўнікі нацыянальнай творчай інтэлігенцыі. У выездзе за межы Беларусі яны бачылі адзінае ўратаванне, бо, у лепшым выпадку, іх маглі чакаць сталінскія лагеры, а то і горш. Падобная перспектыва "свяцілa" і Я. Золаку, бо ў час акупацыі ён некаторы час настаўнічаў, працаваў карэктарам у газеце, а пасля служыў афіцэрам у так званай Беларускай Краёвай Абароне. Акрамя таго, быў адным з аўтараў калектыўнага зборніка "Песняры Случчыны", выдадзенага ў 1943 годзе ў Слуцку.

У выгнанні жыў у Нямеччыне, а потым перабраўся ў ЗША. Дарэчы, пра ўсё гэта можна даведацца з прадмовы і найчасцей з вуснаў самога паэта, сапраўднае прозвішча якога Даніловіч, а імя Антон. Нарадзіўся ён у вёсцы Лучнікі, непадалёку ад Слуцка. Першыя вершы напісаў яшчэ ў школе і падпісваў іх псеўданімам Антось Вірок. А Янкам Золакам стаў пасля выступлення на старонках "Газэты Случчыны". У эміграцыі карыстаўся і іншымі псеўданімамі — А. Здрок, З. Ажына, К. Асцюк, К. Аса, Яз. Дольны... Але найчасцей заставаўся Янкам Золакам.

У кнізе прадстаўлены лепшыя творы Я. Золака, пачынаючы з 1941-га і па 1994 год уключна. Гэта, за выключэннем паэмы "Мінаючы прыстань" і некаторых перакладаў, у тым ліку і "Псалмоў", вершы ці эпіграмы. Тым самым па-за межамі выдання засталася проза Я. Золака, яго драматычныя творы і творы для дзяцей. Але такая воля аўтара, ды і, па праўдзе кажучы, большага поспеху Я. Золак усё ж дабіўся ў галіне паэзіі.

Прыхільнік традыцыйнай манеры пісьма, ён не выходзіць за межы тэм, якія раскрываюцца большасцю аўтараў, — харaство прыроды, шчырасць пачуццяў, любоў да Радзімы. Але акурат апошняя ў Я. Золака, як і ў іншых прадстаўнікоў літаратуры беларускага замежжа, гучыць асабліва адкрыта, публіцыстычна завострана. Інакш і быць не можа. Калі чалавек апынуўся ў далечыні ад Бацькаўшчыны, ён мусіць звяртацца да таго, што яму найбольш дорага, а калі гэта выгнаннік палітычны, дык і пераходзіць ад асабістых перажыванняў да абагульненага асэнсавання лёсу народа, усёй нацыі.

Назву зборніку даў аднайменны верш, напісаны ў 1961 годзе. Як і пераважная большасць твораў Я. Золака, ён не вызначаецца празмернай вобразнай насычанасцю, тым не менш напісаны шчыра, бо за кожным радком асабіста перажытае:

**Праз моры, вазёры, праз шыр акіянаў,**
**Праз гораў хрыбты, праз даліны**
**Да нас прылятае, як госьць наш чаканы,**
**Вятрыска з радзімай Краіны.**

**І подых ягоны, як дотык пяшчотны**
**Матулі у годах дзяцінных;**
**Лагодзіць наш боль, суцяшае самотных**
**Вятрыска з радзімай Краіны.**

*(У кнізе захавана адметнасць арыгінала).*

"Вятрыска з радзімай Краіны" "падказаў" паэту творы, у якіх ён звяртаецца да памятнага дня, калі была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка, асэнсоўвае падзеі Слуцкага збройнага чыну. У гэтым шэрагу вылучаецца верш "На прасторах Случчыны", сваёй танальнасцю блізкі фальклору (між іншым, гэта ўвогуле адметнасць паэзіі Я. Золака):

**Прагрымеў над Случчынай**
**Кліч, нібы прыбой:**
**"Гэй, народзе змучаны,**
**Час ісьці у бой!".**

**Водгульле грымучае**
**Рвала карані...**
**І пайшлі рашучыя**
**Край свой бараніць.**

**Над кагортай сьмелаю,**
**Вабячы ў прасьцяг,**
**Бел-чырвона-белаю**
**Птушкай рэе сьцяг.**

Удаюцца Я. Золаку пейзажныя вершы. Яшчэ з гадоў вайны, калі ён знаходзіў душэўнае заспакаенне ў любаванні роднымі краявідамі. Тады і нараджаліся радкі светлыя, прачулыя: "На прасторах зіма-чараўніца // Лебядзіны рассыпала пух, // Красіць твары, як сонца суніцы, // Ветрам колкім захлупвае дух" ("Зіма-чараўніца"). Праўда, поруч з гэтымі матывамі захаплення зімовым харaством з'яўляюцца і іншыя, у якіх асабістае, у якіх боль перажыванняў па тым, што не збылося:" Вёска зьнікла, а лёгкія сані // Ўсё лятуць у туман, у сьнягі... // Ты казала, мяне не абманіш // І ніколі не будзеш з другім. // А сягоньня ў марознай дрымоце // Разьліваецца звон з-пад дугі... // Маё сэрца баліць у самоце, // Бо цябе абнімае другі" ("Здрада").

А акраверш "Родная мова" — яшчэ адна магчымасць адчуць, наколькі паэт памятае тое, што ўвабраў у сваю душу і сэрца з маленства. Зноў жа, як быццам звычайныя радкі, але глыбей уніклеш у сэнс сказанага — і адчуваеш, што гэта прамоўлена вуснамі менавіта лірычнага героя Я. Золака, а не некага іншага, і, перш чым напісалася яно, шмат разоў прыходзіла ў думкі. І падчас начных роздумаў, калі гэтак хацелася вярнуцца туды, куды, разумеў, звароту няма:

**Роднай мовы чароўныя гукі,**
**О як любы вы нам ад прадвесьня!**
**Дзіцянём яшчэ цягнем к вам рукі,**
**Нібы ловячы матчыну песьню.**
**А як толькі ўбяромся мы ў сілу,**
**Будзем зоркай вы нам да магілы.**
**Мілагучных, ад шчырага сэрца,**
**Одаў мала яшчэ напісана**
**Вам, каб можна было імі грэцца,**
**Аздабляючы вечар і ранак.**

Праўда, некалькі гадоў назад паэту ўсё ж пашчасціла пасля доўгай разлукі сустрэцца з Бацькаўшчынай. Пабываў Я. Золак і на любай сэрцу Случчыне. Пасля гэтага 14 ліпеня 1994 года напісаў такі безыменны верш:

**Я ў госьці прыехаў да роднага Краю**
**Напіцца яшчэ раз прынаднай красы.**
**Мяне сустракаюць і шчыра вітаюць**
**Палеткаў шырокіх сыны-каласы.**

**Бярозы ля хаты, буслы на папары**
**І родныя людзі — мае земляні.**
**Ну вось і зьбыліся заветныя мары:**
**Страчаюць ласкава мяне Лучнікі.**

**Самота былая зрабілася друзам.**
**Старонка радзімая, як ты жывеш!**
**На роднай зямлі мне вярнулася Муза.**
**І сэрцу нашэптвае ціхі свой верш...**

Было акрыяў душой, але па вяртанні зноў адолеў сум. І нельга не пагадзіцца з Л. Пранчаком, што Я. Золак — самотны паэт. Гэта, відаць, і ад характару, і, канечне ж, ад абставін. Асабліва апошнім часам, калі надышла старасць. Надышла восень жыцця, наблыжаюцца замаразкі. Тым не менш паэт прызнаецца:

**Не хачу ад журбе гаварыць,**
**Толькі восень любіць не пакіну.**
**Я кахаю яе, як жанчыну, —**
**Аж да самай зімовай пары.**

Гэта таксама назіранне да першаасновы. Увогуле, інакш і быць не можа, бо паэзія Я. Золака па-сапраўднаму зямная. А карані яе ў роднай, беларускай глебе.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**



# КРАШЫНСКАЕ РЭХА

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

### ДЗЕВЯТНІК

Крашын, як і кожнае годнае мястэчка, мае сваё гадавое свята, гадавы фэст. Гэтае свята тут завецца Дзевятнікам. Чаму Дзевятнік? Бо адбываецца на дзевятым тыдні пасля Вялікадня. А крашынскі касцёл, паміж іншым, мае назоў касцёл Божага Цела. Дзевятнік — гэта дзевяты тыдзень з часу ўваскрэсення цела Божага. Гэта вельмі прыгожае і маляўнічае свята. І ўрачыстае. З усёй акругі ў Крашын з'язджаюцца ксяндзы. Робяцца абходы мястэчка, вуліц. З спевамі і малітвамі. З абразамі, харугвамі і крыжам. Харугваў сем. Пaпераддзе харугваў балдахіны. Іх нясуць чацвёра. Абразы бярозкамі абстаўлююць. Кілімы напінаюць. Вуліцы аерам высцілаюць... І гэтак з малітвамі, набожнымі спевамі праз усё мястэчка.

Дзевятнік крашынцы святкуюць з незапамятных часоў. Гэта было і Багрымава свята. Шмат гадоў і ягоную статную постаць разам з усімі блізкімі, роднымі можна было бачыць у гэтым прыгожым шэсці. І, пэўна, не дзенебудзь у натоўпе, а пры харугвах, пры абразах, асабліва пад той час, калі ён слугаваў у касцёле ксяндзу Война Клімашэўскаму.

### ЧАРАЎНІК

У крашынцаў, сучаснікаў Паўлюка Багрыма, склалася ўражанне, што іхні слынны зямляк, апроч усяго іншага, быў яшчэ і чараўніком, ваўкапакам. І нічога дзіўнага ў гэтым няма. Усе таленавітыя людзі — гэта Богавы людзі, людзі ад Бога. Яны і ходзяць не так, як усе. Да ўсяго нешта прыглядаюцца, ва ўсё ўслухоўваюцца. Яны ходзяць па зямлі, а думкамі сваімі лунаюць невядома ў якім свеце. Для простага люду яны і цяпер здаюцца дзівакамі. А што ўжо казаць пра Багрымавых сучаснікаў! Каваль, а з кнігамі возіцца! Штось піша! Яму ў галаве птушачкі, жаваранчакі! Дзень у кузні плешча, а звечарэ, пры свечцы ці лучыне штось у паўзмроку на паперы крэмзае, грымзоліць, губамі мыляе, шэпча. Піша і мыляе. Гэтае мыляненне можа больш за ўсё і палохала местачкоўцаў. Яно было загадкавае, падобнае да магіі. Загадкавы быў і агеньчык у Багрымавым акенцы. Над усім мястэчкам даўно цемра, змрок. І толькі ў Багрымавай хаце да поўначы не атухаў трапяткі агеньчык. Вядома, местачкоўцам было цікава, што робіць гэты лунацік, паўночнік. Сярод местачкоўцаў знайшліся, безумоўна, і такія, што крадком цікавалі за Багрымам. Але, апрача мыляння ягоных губ над аркушам паперы, нічога іншага падазронага праз акенца не заўважалі. Але і гэтага было дастаткова, каб пусціць па мястэчку пагалоску, што Багрым чараўнік, займаецца якімсь чарадзействам. Пагалоска гэтая дайшла, як бачым, аж да нашага часу. А ён і напраўду быў чараўнік. Толькі не той чараўнік, што людзям шкодзіць, а што ўзвышае іх і іхнія душы. То не трэба аспрэчваць, што Багрым быў чараўніком, чарадзеем. Быў! І яшчэ якім. Таму і памятаюць яго людзі.

### ПРА ВОЛЬНАСЦЬ ЗАЛАТЫМІ ЛІТАРАМІ

Крашынцы, а паміж іх і Паўлюк Багрым, былі вольныя людзі. Пра іхнюю вольнасць было запісана ў асобай кніжцы, запісана залатымі літарамі. Тую кнігу крашынцы хавалі як святыню — па чарзе. Ніхто не ведаў, дзе яна і ў каго. Пераходзіла з рук у рукі. І ўсё ж нейкім цудам, калі Крашын падпаў пад новага гаспадара Юрагу, ён неяк пранюхаў пра яе. Доўга выпытваў, але нічога ў яго не выходзіла. Тады ён падсылае ў карчму сваіх людзей, і тыя пачынаюць у падпітых мужыкоў выпытваць крашынскую тайну. Адному з іх, паводле Сцяпана Аляксандровіча, Анацуту, якраз гэта і ўдалося. Быў тут адзін чалавек — Ролікам звалі. Чаму яго так звалі, ніхто не ведае. Ролік дый Ролік. Дык Анацута падпаіў гэтага Роліка, і той прынёс яму кнігу пра крашынскую вольніцу. З-за гэтай кнігі ўсё і ўсчалося ў Крашыне.

Юрага справодзіў полк жаўнераў, і ўсіх мужчын праз строй прагналі. Было стогну ў Крашыне і галасу. Розгамі секлі, палкамі білі. Уся Шчара зашкварылася крывёю. Усе патрапілі пад прыгон. Але ненадоўга...

* * *

...Крашынцы ўзбунтаваліся вясной 1828 года. Праз тры гады, у 1831 годзе, паўстане ўся Беларусь і Польшча. Крашынскі бунт 1828 года — гэта была нібы рэпетыцыя перад вялікім паўстаннем 1831 года. Крышынцы былі першыя.

Сярод крашынцаў хадзіў той парою верш "Размова хлопцаў", ці інакш: "Рабункі мужыкоў":

**Дзецюкі! Худа нам жыць,**
**Пакіньма прыгон служыць,**
**Зробім вольнасць — і ўрэч,**
**Нас ураднік не будзе сеч.**
**Ці мы людзі не такія,**
**Што нам угрозы ўсякія!..**

Гэты крамольны верш ведаў і Паўлюк Багрым. Якраз яго ён прачытаў саноўнай камісіі, якая прыехала інспектаваць касцёл і крашынскую школу пры плябані. Праз гэты і іншыя вершы Паўлюк Багрым патрапіў пад нядрэмнае вока следства. Ягонай асобай зацікавіліся і больш важныя персоны. Праўду кажучы, менавіта з гэтага моманту Багрымава імя і пачало ўпісвацца ў гісторыю беларускай культуры і літаратуры.

### КАЛІ Б...

Дакладна вядома: Паўлік Багрым з малых гадоў слугаваў ксяндзам. Прынамсі пачціваму ксяндзу Войцеху Магнушэўскаму. Гэта быў адзін з самых любімых ксяндзовых вучняў. Ён захапляўся ягонай здольнасцю, паслушэнствам, пакладзістасцю. Яму імпанавала Паўліка чуйнасць да ўсяго жывога — да людзей і прыроды. У Паўліка было ўсё, каб яго рыхтаваць на святара: і голас, і манеры. Яны былі ў яго далікатна мяккія. Асабліва прыгожа ён выконваў розныя касцёльныя рытуалы: запальваў ці тушыў свечкі, званіў у званочкі між малітвамі, падчас набажэнства. Ксёндз Магнушэўскі яго інакш не называў, як Паўлік, — пяшчотна і ласкава. Магчыма, Павел Багрым і стаў бы святаром, вывучыўся б на святара, калі б не разыгралася тыя незабыўныя падзеі вясной 1828 года ў Крашыне. Яны давялі ксяндза Магнушэўскага да магілы, а ягонага любімага вучня скіравалі ў іншае рэчышча. Ён пайшоў бацькоўскай дарогаю, бацькоўскім шляхам, бацькоўскімі сцежкамі — стаў слаўтым кавалём. Але не простым кавалём, а выкшталцоным кавалём, кавалём-мастаком, кавалём-паэтам. Тая вывучка, якую ён атрымаў у касцёле ад ксяндза Магнушэўскага, не прапала дарма. Ён і ў кузні пачуваў дух царквы, дух касцёла, дух малітвы. Адухоўлены кавалём, малітваю, ён каваў і сваю жырандолю, каваў

**НА ЗДЫМКУ: масток праз Шчару ў Крашыне. Паблізу была Багрымава сядзіба і кузня.**

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

*РЭПАРТАЖ З ПРАВІНЦЫІ*

# МАСТАЦКАЯ ГАЛЕРЭЯ

У беларускага горада Ліды шмат адметнасцяў. Гэта крэпасць, велічная, суровая, пабудаваная яшчэ пры Гедыміне, больш як шэсць з паловай стагоддзяў таму назад. Помнік Ф. Скарыне — слыннаму сыну зямлі беларускай. Бюст выдатнага паэта А. Міцкевіча. Два касцёлы, помнікі архітэктуры. Дом польскай культуры... І — мастацкая галерэя, якая займае другі паверх вялікага будынка.

Яна стала асяродкам мастацкага выхавання і моладзі, і дарослых. У ёй заўсёды можна палюбавацца карцінамі. Сёння ў галерэі — першая выстава мясцовых мастакоў. Яны розныя па поглядах, па метадах адлюстравання на палатне.

Альберту Гейлю выпаў цяжкі лёс. Яго, паволжскага немца, маленькім хлопчыкам дэпартавалі з бацькамі ў Казахстан. Зведаў нягоды сталінскай ссылкі. З сорак сёмага года ў дзіцячым доме. Пра якую вучобу ў такім стане можна было думаць!

Рос самавукам. Толькі ў 1969 годзе завочна скончыў Маскоўскі народны універсітэт культуры. Служыў у арміі, застаўся жыць у Лідзе.

Талент бацькі, відаць, перадаўся сыну Сяргею. Але Сяргей мае свой погляд на мастацтва. Ён гаворыць:

— Не хачу пісаць з натуры. Мне сумна перамалёўваць тое, што створана прыродай і намалявана іншым чалавекам. Я хачу перадаваць свае пачуцці, мары, сваё разуменне сутнасці, свой погляд на рэчы і з'явы ўласным метадам. Лепш я свае эмоцыі выплюхну на палатно з дапамогай пяра альбо пэндзля, чым на твар чалавека з дапамогай кулакоў.

Такі ўжо ён — Сяргей Гейль. Такі ён і ў сваіх творах. Не ўсе іх прымаюць, не ўсе разумеюць. Але ён выразна, па-свойму канкрэтна выказвае думкі, погляды на жыццё.

Трэцяя на гэтай выставе — Марыя Летуноўская (Блажына Марына). Яе радзіма — горад Вінаградава, што ў даліне Карпат, на беразе ракі Цісы. Дваццаць гадоў яна жыве ў Лідзе, выкладае ў музычнай школе віяланчэль і малюнак. І піша свае карціны. Яны разышліся па ўсім свеце, захоўваюцца ў прыватных калекцыях у Злучаных Штатах Амерыкі, Швецыі, Кіева, Мінска, Іерусаліма... Мастачка лічыць:

— Час прыходзіць і праходзіць — з усімі сваімі клопатамі і мітуснёй. І толькі мастацтва — вечнае.

Цікавая выстава лідскіх мастакоў у мастацкай галерэі "Лідзея". Яе наведваюць госці горада, яго жыхары, вучні. І кожны пакідае яе з добрым пачуццём.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**







**НА ЗДЫМКАХ: Сяргей ГЕЙЛЬ. "Пачатак"; Альберт ГЕЙЛЬ. "Зімні пейзаж"; Марыя ЛЕТУНОЎСКАЯ. "Сланечнік".**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## «ЛІДЗЕЯ»

Мастацкая галерэя "Лідзея" за чатыры гады свайго існавання стала адным з вядучых культурных цэнтраў нашага горада. Накірунак яе дзейнасці перш за ўсё асветніцкі і вучэбна-пазнавальны. Наша задача — прылучыць людзей да прыгожага, пазнаёміць іх з творамі розных жанраў выяўленчага мастацтва.

У галерэі за час яе існавання было наладжана каля 70 выстаў. Дэманстравалі свае творы мастакі А. Кашкурэвіч, І. Рэй, В. Гоманаў, Л. Гоманаў, І. Пратасеня, В. Рынкевіч, В. Паўлавец, І. і А. Кузняцовы з Мінска, В. Церабун, А. Багустаў, А. Ляшчынскі (Гродна), Ф. Гумен, В. Шылко, Б. Хешн, В. Фальцэвіч, А. Шыёнак, Л. Ляховіч (Віцебск), А. Тамко, В. Шапіра (Полацк), А. Судар, В. Вераб'ёў, А. Варакса, В. і Т. Лук'ян, В. Мельнікаў, В. Галкін (Ліда). Наведвальнікі змаглі пазнаёміцца з рознымі творцамі, у якіх свае погляды на жыццё, свае метады яго адлюстравання.

У галіне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва хочацца назваць выставы мастацкага шкла майстроў шклозавода "Нёман", рэзчыка па дрэву А. Кундо з Навагрудка, членаў гуртка Дома дзіцячай творчасці Ліды. Стала традыцыяй наладжваць выставы дзіцячых работ, тэматычныя конкурсы малюнкаў навучэнцаў з Ліды і раёна, гурткоў выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Вялікую цікавасць праявілі лідчане і іх госці да выстаў зарубежных майстроў — Я. Кузьміцкага (Швецыя), Т. Стагановіч (ЗША), польскага плаката.

У апошні час сталі папулярнымі дэманстрацыі фотаработ, у прыватнасці, Марты Казаноў (ЗША), Яўгена Казюлі (Мінск). Фотамастацтва ўсё больш трывала ўваходзіць у жыццё людзей. Наладжваюцца сувязі з Саюзам фотамастакоў Беларусі, іх арганізацыямі з іншых краін.

Дзейнасць галерэі не абмяжоўваецца толькі зменай экспазіцый. Наладжваюцца сустрэчы з мастакамі, паэтамі, музыкантамі, канцэрты выкладчыкаў і навучэнцаў музычнага вучылішча і музычнай школы.

Пачаў дзейнічаць слайд-салон. Дэманструюцца слайды, чытаюцца лекцыі аб творчасці замежных і сваіх мастакоў, аб беларускай прыродзе, нашым горадзе. Тэмы лекторыяў узгадняюцца з праграмай вывучэння сусветнай культуры і мастацтва ў сярэдніх школах. Гэта памагае навучэнцам глыбей засвоіць вучэбны матэрыял.

У апошні час адзначаецца жаданне моладзі прысвяціць сябе мастацтву. Паколькі рыхтавацца да ўступных экзаменаў не было дзе, вырашылі стварыць пры галерэі платны вучэбна-метадычны цэнтр. Весці яго даручылі нашай супрацоўніцы Л. Драко. Вопыт работы ў яе ёсць. Практычна ўсе, каго яна рыхтавала і кансультавала, паступілі ў спецыяльныя і вышэйшыя навучальныя ўстановы.

Адкрыта майстэрня па выкананні мастацкіх фотаработ. Гэта дапамагае зняць пытанні аб набыцці слайдаў, вырабе дапаможнікаў для навучальных установ. Робяцца рэкламныя, мастацкія і іншыя фотаздымкі па заказах арганізацый і насельніцтва, а гэта дае дадатковыя сродкі на ўтрыманне галерэі.

У нас ёсць уласныя фонды, у іх каля 70 твораў жывапісу, графікі, скульптуры, купленыя галерэяй альбо падораныя нам мастакамі.

**Уладзімір ЯНЦЭВІЧ,**
**дырэктар галерэі "Лідзея".**

# КРАШЫНСКАЕ РЭХА

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

для святыні. Куючы, разумеў, што ён робіць і для чаго. Кожнага дня, беручыся за жырандолю, за молат і малаточкі, раздзьмухваючы горан, ён спачатку прамаўляў малітву, і Бог памагаў яму. Ён і кавалём пачуваў сябе паэтам. Духам сваім паэтызаваў жалеза і агонь.

Не шмат на Беларусі было такіх кавалёў, якім быў Багрым. Апрача духоўнага пачатку, ён разумеў і смак мастацкага слова, слова Божага. І гэта ўсё спрыяла яму жыць цікава і разнастайна, ва ўсім бачыць радасць і хараство жыцця.

### ПОГЛЯД НА БАСТОН

Сваю славутую жырандолю Паўлюк Багрым, як вядома, выкаваў на бастонскі ўзор. На гэты ўзор яго, пэўна, скіраваў заказчык — Пётра Святаполк-Завадскі. Але што ў ёй бастонскага? — вось пытанне. Нашы даследчыкі бачаць у крашынскай касцельнай Багрымавай жырандолі толькі беларускія матывы — жаўрукоў, кветку лотаць. Не наша на жырандолі хіба толькі вінаграднае лісце з рэльефнымі пражылкамі. Бастонская ж у ёй хіба толькі аснова, каркас, мадэль? Думаецца, Паўлюк Багрым перад тым, як брацца за працу, доўга раіўся з Святаполкам-Завадскім, разглядаў з ім якіясь схемы, малюнкі, узоры, сам штосьці маляваў, правіў, сваё прапаноўваў. Надаралася, мо нават спрачаліся, пярэчылі адзін аднаму. Думаецца, Паўлюк Багрым, як асоба творчая, паэтычная, зрабіў нямала адступленняў ад бастонскага ўзору. Якіх? Каб гэта ж убачыць хоць адзін з тых бастонскіх узораў ды параўнаць яго з Багрымавым тварэннем!

Паўлюк Багрым скончыў сваю жырандолю ў 1881 годзе. Было яму на тую пару ўжо пад семдзесят. Але, калі меркаваць па жырандолі, па яе ювелірнасці, бачыш: рука ягоная была яшчэ трывалая, вока зоркае. Пэўна, у яго былі і памочнікі, вучні, але яны былі толькі падручнымі. Мастацкі ж дух жырандолі, безумоўна, стварaў Багрым — паэт і мастак-каваль.

Пасля гэтай падзеі — заканчэнне працы над жырандоляй — Багрымава імя неяк канула для нас у невядомасць. Ва ўсякім разе беларускія літаратуразнаўцы пасля 1881 года не маюць ніякіх канкрэтных звестак пра Багрыма. Мо і напраўду Багрым, выкаваўшы для крашынцаў жырандолю на бастонскі ўзор, наслухаўшыся пра майстэрства бастонскіх металістаў і кавалёў, адчуў якісь смак замежнага духу і скіраваў свой погляд за акіян? Толькі наўрад ці!

### НЯМА ТОЛЬКІ БАГРЫМАВЫХ...

Некалі Максім Багдановіч, безнадзейна хворы, разумеючы ўсю безвыходнасць свайго становішча, сказаў: "Ад усіх будуць патомкі... Не будзе толькі Максімавых". І напраўду, няма на Беларусі патомкаў Максімавых. Няма і Марцінкевічавых. Няма і Багушэвічавых. Няма на Беларусі нашчадкаў і Яна Неслухоўскага — Янкі Лучыны, Антона Лявіцкага — Ядвігіна Ш., хоць яны і мелі свае сем'і. Няма, няма, няма... Гэты спіс можна доўжыць і доўжыць. Няма і Багрымавых. Нават прозвішча Багрым на ягонай радзіме не сустракаецца. Не ведаю, ці ёсць яно і на ўсёй Беларусі. А былі ж у Паўлюка браты, сёстры. Пэўна ж, кожны з іх меў сваю сям'ю. А кожная сям'я, як тады вялося, мела не меней як чацвёра-пяцёра дзяцей. Унь як павінны былі распладзіцца Багрымы! А пра іх на Беларусі ніякага паміну. І сам Паўлюк, хоць і позна, на пяцьдзесят другім годзе завёў сям'ю. І дзецьмі паспеў абзавесціся. Але ні пра іх, ні пра іхніх нашчадкаў ніякага духу на Беларусі. Такі, на жаль, горкі вырак шмат якіх выдатных сыноў Белай Русі. І страх не ў тым, што нашчадкі тых ці іншых выдатных сыноў не жывуць на Беларусі. Страх у тым, што мы пра іх нічога не ведаем, дзе яны, што з імі, што парвана ўсялякая повязь іхніх родаў з Беларуссю, з яе культурай. Вось у гэтым, думаецца, трагедыя нашай нацыі. А трагедыя ідзе з нашай гісторыі, з нашай колішняй паняверкі, з нашай тутэйшасці. Дзе прытулілі — там і добра. А добра можа быць толькі на Радзіме. Гэтак думалі і думаюць толькі патрыёты. А патрыётаў трэба гадаваць — з году ў год, з веку ў век. Тады мы не будзем губляць цэлыя роды выдатных людзей. І яна не будуць губляцца, бо між імі і намі, тым краем, які нарадзіў іх, будзе вялікае прыцягненне, якое завецца Радзімаю. Што ж да роду Багрымаў, то цяжка паверыць, што ён звёўся з зямлі. Мо яшчэ неяк спакваля, агульнымі намаганнямі нашых і замежных даследчыкаў, нашых суайчыннікаў за мяжою, неяк удасца хоць каго расшукаць з нашчадкаў слаўнага Багрыма? Толькі трэба шукаць... Мо каму і пашчасціць? Хто шукае, той знаходзіць. А пад нерухомы ж камень і вада не цячэ. Хто ж чаго шукае, на таго тое ідзе. Гэта вядома здаўна.

**Уладзімір СОДАЛЬ.**


**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").





**НАШ АДРАС:**
**220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.**

**Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.**





Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку".
(220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1786.
Падпісана да друку 15.12.1997 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.